• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

17 жніўня 1996 г. субота, № 205 (23008)



# ЗВЯЗДА

### УРАДЖАЙ-96

## У барацьбе за лепшыя вынікі з'явіліся свае фаварыты

**По выніках жніва, зыходзячы з дасягнутага, будуць вызначаны лепшыя механізатары. Прысуджаецца 12 першых месцаў, 20 другіх і 30 трэціх. Першыя прэміруюцца аўтамашынамі і матацыкламі, тыя, хто ўзняўся на другую і трэцюю прыступкі, таксама не застануцца без увагі — атрымаюць халадзільнікі, тэлевізары, іншыя прызы.**

Зараз у спаборніцтве вызначыліся яўныя прэтэндэнты на аўтамабіль. Так, ужо некалькі дзён сярод лепшых значыцца камбайнер з калгаса «10 год Кастрычніка» Рэчыцкага раёна Васіль Паўлёнак, які па апошніх даных Мінсельгасхарча, намалаціў 988 тон збожжа. Яго калега з калгаса «Зара» Магілёўскага раёна Мікалай Кухарэнка мае паказчык у 972 тоны.

Сярод машыністаў па дапрацоўцы зерня лідзіруе Мікалай Дубавіцкі з эксперыментальнай базы «Увaравічы» Буда-Кашалёўскага раёна, які перапрацаваў 4037 тон збожжа.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

## ...будзе павялічаны памер штрафаў для «зайцоў»

**Як паспелі заўважыць пасажыры сталічнага грамадскага транспарту, апошнім часам гарадскія ўлады ўсур'ёз заняліся безбілетнікамі: праверкі на лініях (да таго ж з міліцыяй) сталі праводзіцца не тое каб штодзень, а нават па некалькі разоў на дні. Пайшла пагалоска і аб тым, што ў хуткім часе будуць павялічаны штрафы для «зайцоў».**

Як растлумачылі карэспандэнту «Звязды» ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, транспартнікі сапраўды дабіваюцца павелічэння штрафаў за безбілетны праезд да памеру адной мінімальнай заработнай платы (зрэшты, па словах спецыялістаў, яны былі б удзячнымі і за палову гэтай сумы). Адкуль такая пазіцыя? Як вядома, на сённяшні дзень грамадскі транспарт на 60 працэнтаў датуецца з бюджэту, які, на жаль, і без таго пусты. Сума даходаў транспартнікаў складае зараз 30 млрд. рублёў штомесяц, што далёка да жаданай лічбы, у тым ліку і з-за безбілетных пасажыраў. Таму яшчэ год таму з шэрагам міністэрстваў былі ўзгоднены прапановы Вярхоўнаму Савету аб павелічэнні штрафаў. Але праект закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях» да гэтага часу так і не быў прыняты. Увесь гэты час транспартнікі чакаюць.

А між тым сёння, як паведамілі ва ўпраўленні, надзвычай востра стаіць пытанне набыцця запчастак, паліва і г. д. Гэты матэрыял рыхтуецца ў пятніцу ў сярэдзіне дня, а там пакуль не ведаюць, дзе здабыць грошы на паліва на суботу і нядзелю...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# «Я ЛІЧУ ЗА ЛЕПШАЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ З НАРОДАМ, А НЕ З ТЫМІ, ХТО ЎЗЯЎ МОДУ ГАВАРЫЦЬ АД ІМЯ НАРОДА»

### Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці Гродзенскай вобласці

Паважаныя таварышы!

Мой цяперашні прыезд у Гродзенскую вобласць далёка не выпадковы. Я шмат разоў сустракаўся з жыхарамі розных куткоў Гродзеншчыны і лічу, што ў нас з вамі ўстанавіліся шчырыя і даверныя адносіны. Роля, якую адыгрывае ў нашай рэспубліцы Гродзенскі край, вельмі значная.

Гродзенская вобласць — гэта вароты, якія звязваюць нас з Заходняй Еўропай. У Гродне знаходзяцца буйнейшыя прамысловыя гіганты, вобласць мае высокаразвітую сельскую гаспадарку. Па ўзроўню культуры, развіццю сацыяльнай інфраструктуры Гродзенская вобласць, бадай, адзін з найбольш развітых рэгіёнаў рэспублікі. Гістарычнай асаблівасцю вобласці з'яўляецца і тое, што тут спакон веку мірна жывуць і працуюць многія нацыянальныя абшчыны.

Ёсць і іншая прычына маёй сустрэчы з вамі. На прэзідэнцкіх выбарах ваша вобласць, разам з Магілёўскай, аказала мне найбольшую падтрымку. І я буду вам за гэта ўдзячны заўсёды.

Мінулі два гады, і мой прыезд сёння — гэта не толькі справаздача перад вамі аб рабоце на пасадзе Прэзідэнта, але і жаданне выверыць свой курс на будучыню.

Сёння я азнаёміўся са станам спраў на вытворчым аб'яднанні «Азот», тытунёвай фабрыцы, гутарыў з працоўнымі калектывамі гэтых прадпрыемстваў. Я маю намер наведаць і сельскія раёны вобласці, а таксама горад Навагрудак — гэты цудоўны горад Старажытнай Русі, заснаваны ў XI стагоддзі Вялікім князем Яраславам Мудрым, горад, які перажыў доўгую і цяжкую гісторыю і сёння шмат значыць для кожнага беларуса.

Такія сустрэчы з народам і парада з ім тым больш неабходныя, што становішча ў рэспубліцы застаецца складаным і выклікае розныя ацэнкі, неадназначную рэакцыю як унутры рэспублікі, так і за межамі.

Я ведаю, што тым, хто жыве сумленнай працай, сёння нялёгка: і рабочаму, і селяніну, і ўрачу, і настаўніку. У цяжкім становішчы прамысловасць, крызіс неплацяжоў, недахват абаротных сродкаў, затаварванне. І ўсе аб гэтым ведаюць.

Але разам з тым я катэгарычна не згодны з тымі, хто малюе эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы толькі чорнымі фарбамі. Калі паглядзець непрадузята, то трэба прызнаць, што за два гады прэзідэнцтва зроблена не так ужо і мала.

Жорсткімі і не заўсёды папулярнымі мерамі ўдалося стрымаць раней нястрымную інфляцыю. Гэта дало магчымасць спыніць спад вытворчасці ў цэлым шэрагу вядучых галін, і ў першую чаргу такіх, як хімічная і нафтахімічная.

У лёгкай прамысловасці крызіс, можна сказаць, пераадолены і пачаўся, няхай пакуль павольны, але рост вытворчасці. Ёсць цвёрдая ўпэўненасць у тым, што да канца бягучага года ў лёгкай прамысловасці рэспублікі, шэрагу іншых галін будзе не толькі дасягнуты ўзровень мінулага года, але нават перавышаны.

Стабільна працуе Беларуская чыгунка. За кошт дзяржавы будзе завершана рэканструкцыя чыгуначнага вакзала ў г. Мінску. Упэўнена набірае вышыню і беларуская грамадзянская авіяцыя.

Выклікае пэўны аптымізм ход уборачнай кампаніі. Як сведчаць даныя статыстыкі, наперадзе ідуць працаўнікі Гродзенскай вобласці. Тут і тэмпы ўборкі, і сярэдняя ўраджайнасць збожжавых, якая складае больш за 28 цэнтнераў з гектара, перасягнулі леташнія паказчыкі.

У цэлым па рэспубліцы таксама ёсць прырост па гэтых паказчыках, хоць прыродныя ўмовы ў некаторых рэгіёнах склаліся крайне неспрыяльна для ўборкі ўраджаю.

Так, у Гомельскай вобласці ў выніку лівеневых дажджоў узровень вады на палях дасягаў аднаго метра. Было затоплена звыш 10 тысяч гектараў.

Сёння, каб выратаваць ураджай на гэтых палях, людзі сярпамі жнуць збожжавыя і выносяць снапы на пагоркі для малацьбы камбайнамі.

На гэтым фоне ці не па-кашчунску гучаць здзеклівыя папрокі ў адрас Лукашэнкі, што ён разгарнуў бітву за ўраджай? Хацеў бы я ведаць, што заспявалі б гэтыя разумнікі зімой, калі б не было гэтай бітвы? Ці яны таксама збіраюцца адпраўляцца на заакіянскі хлеб?

Сёння мы плануем правесці сур'ёзнае рэфарміраванне сельскай гаспадаркі.

Базай для гэтых рэформаў стануць праграмы будаўніцтва танных і камфартабельных сельскіх дамоў, разгортванне сеткі дабротных сельскіх дарог. Для крэдытавання гэтых праграм дзяржава ўжо выдзеліла з бюджэту больш за два трыльёны рублёў.

(Працяг на 2-й стар.)

# Прэзідэнт прыехаў на гродзенскі «Азот» не дзеля таго, каб «зрэзаць» зарплату. А са стварэннем СП на базе тытунёвай фабрыкі ён пакуль не згодны

**Рабочы візіт Аляксандра Лукашэнкі на Гродзеншчыну пачаўся з наведвання хімічнага гіганта — вытворчага ордэна Дружбы народаў аб'яднання «Азот» імя С. Прытыцкага. Не лепшыя часы перажывае флагман «вялікай хіміі» былога СССР. Даходзіла нават да спынення вытворчых магутнасцей, што калісьці не магло прысніцца нават у самым жудасным сне. Але ёсць надзея, што горшае ўжо ў мінулым. Сёлета сітуацыя на «Азоце» досыць стабільная — калектыў працуе з даволі прыстойнай нагрузкай, гродзенская прадукцыя не страчвае сваёй канкурэнтаздольнасці, сярэдняя зарплата большая, чым на многіх іншых прадпрыемствах, і складае прыкладна 2,5 мільёна рублёў.**

Дарэчы, падчас сустрэч з рабочымі Аляксандр Лукашэнка супакоіў іх, што прыехаў на «Азот» зусім не дзеля таго, каб «зрэзаць» зарплату (такія чуткі, паводле слоў Прэзідэнта, напярэдадні візіту мусіраваліся): «Гэта абсурд, — заявіў кіраўнік дзяржавы. — Ёсць у вас грошы на рэканструкцыю аб'яднання — вы павінны іх аддаць, бо інакш заўтра загубіце прадпрыемства і не будзе такой зарплаты. Калі ж вам не патрэбна сёння рэканструкцыя альбо вы не можаце яе праводзіць і ёсць лішняя капейка — заплаціце рабочым, я не супраць. Я зарплату рэгулюю толькі кіраўнікам прадпрыемстваў праз сваіх міністраў».

Якія ж пытанні падрыхтавалі гродзенскія хімікі да прыезду Прэзідэнта? Вось што адказаў карэспандэнту «Звязды» дырэктар аб'яднання Валерый Лангоў за некалькі хвілін да з'яўлення на тэрыторыі «Азота» прэзідэнцкага картэжа: «Адна з просьбаў — вызваліць поўнасцю на тры гады альбо хаця б зменшыць падатак на ўвоз запчастак з-за мяжы, бо інакш могуць сарвацца нашы праграмы па тэхнічнаму абнаўленню прадпрыемства. Канкрэтны прыклад. Купілі мы трубы рэформінгу, затраціўшы на гэта 6 мільёнаў долараў. А падатак склаў 1,9 мільёна долараў. Ці можна весці рэканструкцыю пры такіх затратах? Зразумела, што нельга, не атрымаецца. Другое пытанне — буду прасіць паскорыць разлікі з нашым прадпрыемствам суб'ектаў сельскай гаспадаркі. Іхні доўг сёння складае 45 мільярдаў рублёў. Асобныя кліенты заключылі з намі дагаворы, абяцалі разлічыцца праз два-тры месяцы, аднак і сёння грошай няма. Трэцяе пытанне звязана з сацыяльнай сферай. У нас ёсць свой прафілакторый, і людзі плацяць ад поўнага кошту пуцёўкі (на сённяшні дзень гэта 2 мільёны рублёў) толькі 10—15 працэнтаў. А падатак з людзей бяруць з усёй сумы, з двух мільёнаў. Гэта, па-мойму, не зусім правільна. Калі ўжо аб'яднанне мае магчымасць прадаставіць людзям такую льготу, дык чаму яны павінны дадаткова плаціць 200 тысяч рублёў падатку? Спадзяюся, што будзе ўзнімацца і пытанне аб акцыяніраванні прадпрыемства. Мы былі два гады таму яго ініцыятарамі. Аднак у сувязі з недасканалым, на наш погляд, заканадаўствам мы прыпынілі гэты працэс, дапрацавалі неабходныя матэрыялы і даслалі свае прапановы адпаведным міністэрствам і ведамствам. Падрыхтаваны праект указа Прэзідэнта. І я хачу папрасіць, каб тыя льготы нашым работнікам Прэзідэнт падтрымаў. Ільготы наступныя. На сённяшні дзень наша прадпрыемства ацэнена ў 165 мільёнаў долараў. Калі нават увесь 7-тысячны калектыў укладзе па дзесяць мільёнаў рублёў, дык у суме мы атрымаем толькі два-тры працэнты ўласных акцый. Лічым, што для калектыву, які ўклаў столькі працы і ведаў у аб'яднанне, гэта вельмі мала. Таму мы просім у растэрміноўку на пяць гадоў зарэзерваваць для нашых работнікаў 20—23 працэнты акцый, каб можна было іх паэтапна выкупіць. А тое, што не выкупім, — калі ласка, няхай возьме дзяржава. Другое. Паколькі на рэканструкцыю патрэбны вялікія грошы, мы просім не менш паловы грошай ад першай эмісіі пакінуць на прадпрыемстве на бязвыплатнай аснове ці, можа, на ўмовах вяртання праз пэўны час. І трэцяе пытанне, звязанае з акцыяніраваннем. Паколькі «Азот» перапрацоўвае 4 мільёны кубоў газу ў суткі, мы выказваемся за тое, каб адным з нашых партнёраў (які, дарэчы, збіраецца ўнесці да 30 працэнтаў інвестыцый), быў «Газпром» Расіі. Калі вышэйпамянёныя пытанні будуць вырашаны, «Азот» пойдзе на акцыяніраванне, і, я думаю, ужо ў першым квартале наступнага года гэта стане рэальнасцю».

Потым я пацікавіўся, як адрэагаваў Прэзідэнт на просьбы хімікаў. Па словах Валерыя Лангова, усе чатыры пытанні па даручэнню кіраўніка дзяржавы будуць прааналізаваны міністэрствамі і ведамствамі. Адпаведныя даручэнні дадзены таксама Гродзенскаму аблвыканкому і кіраўніцтву аб'яднання.

Што датычыць гутарак з рабочымі і служачымі прадпрыемства, дык пытанні, якія ўзнімаліся, у большасці сваёй выходзілі за межы «Азота». Пенсіі, плата за камунальныя паслугі, будаўніцтва жылля, кампенсацыя банкаўскіх укладаў... Адзін рабочы сказаў Прэзідэнту, што не галасаваў за яго на выбарах, але цяпер падтрымлівае яго палітыку. Другі засумняваўся ў мэтазгоднасці чарговага рэферэндуму, які прапануецца народу. На што Аляксандр Лукашэнка адказаў, што рэферэндум вельмі неабходны, каб дакладна размеркаваць функцыі паміж галінамі ўлады і захаваць стабільнасць у грамадстве. Яшчэ адзін азотчык уручыў Прэзідэнту кветкі, падзякаваўшы яму за ўмацаванне сувязей з Расіяй.

Другім прадпрыемствам, якое наведаў Аляксандр Лукашэнка, стала Гродзенская тытунёвая фабрыка. Амерыканская фірма «Рэйнольдс Інтэрнэшнл» прапануе ёй аб'яднаць намаганні, стварыўшы сумеснае прадпрыемства. Мяркуецца, што замежныя інвестыцыі дазволяць замяніць фізічна і маральна састарэлае абсталяванне сучаснымі тэхналагічнымі лініямі, у выніку чаго якасць хоць і шкоднай, але папулярнай прадукцыі значна ўзрасце, а аб'ёмы вытворчасці павялічацца ў тры разы.

— Я хачу дзесяць разоў усё ўзважыць, — заявіў Прэзідэнт на фабрыцы і пайшоў гутарыць з рабочымі і служачымі. У выніку Аляксандр Лукашэнка пакуль не змог пагадзіцца са стварэннем СП на базе Гродзенскай тытунёвай фабрыкі: «Гэта манаполіст у нашай дзяржаве, гэта высокарэнтабельная вытворчасць, і падыходзіць да пераўтварэння ўласнасці на такіх аб'ектах трэба надзвычай асцярожна і ўважліва». У дадзеным выпадку Прэзідэнта насцярожыла, што не пралічваліся альтэрнатыўныя варыянты прыцягнення інвестыцый на фабрыку. Да таго ж каля паўтысячы чалавек гэтага прадпрыемства звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай аб сур'ёзнейшай праверцы фабрыкі. Па матэрыялах праверкі ўжо ўзбуджана крымінальная справа. Ад вынікаў следства, відаць, таксама будзе залежаць рашэнне Прэзідэнта адносна далейшага лёсу прадпрыемства.

Адразу з тытунёвай фабрыкі Прэзідэнт прыехаў у абласны драмтэатр на сустрэчу з прадстаўнікамі грамадскасці Прынёманскага краю. Аляксандр Лукашэнка выступіў з прамовай, у якой выказаў свае падыходы да самых розных праблем эканамічнага, сацыяльнага і палітычнага характару і адказаў на пытанні прысутных. Сустрэча працягвалася амаль чатыры гадзіны. На заканчэнне быў запланаваны канцэрт, але зала не выказала жадання яго глядзець.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## УВАГА! ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ!

**Паважаныя чытачы! «Звязда» сумесна з Мінскім абласным дзяржаўным прадпрыемствам аўтамотасервісу і гандлю праводзіць дабрачынную акцыю па аказанню паслуг мінчанам і жыхарам Мінскай вобласці. Калі ў вас узнікнуць праблемы, патрэбы, звязаныя з абслугоўваннем уласнага аўтамабіля, то, прад'яўляючы квітанцыю аб падпісцы на газету «Звязда», а таксама ніжэйнадрукаваны купон, у перыяд да 31 снежня 1996 г. вы маеце права на 5-працэнтную скідку з кошту паслуг. Купон будзе друкавацца ў газеце неаднойчы (да канца 1996 г.). Так што вы можаце звяртацца за паслугамі па льготнаму тарыфу штораз згодна з колькасцю купонаў. Мы змяшчаем таксама і адрасы тых прадпрыемстваў, куды можна звяртацца з купонам «Звязды».**

**Прадпрыемствы Мінскага абласнога дзяржаўнага прадпрыемства аўтамотасервісу і гандлю:**

*1. Беразіно, Прамысловая, 1*
*2. Мар'іна Горка, Шацкая шаша*
*3. Салігорск, вул. Камунальная, 4*
*4. Мядзел, вул. Інтэрнацыянальная*
*5. Любань, вул. Сацыялістычная, 1*
*6. Маладзечна, вул. Віленская, 40*
*7. Клецкі раён, в. Бабаевічы*
*8. Барысаў, Маскоўская шаша*
*9. Смалявічы, Маскоўская шаша*
*10. Мінск, пасёлак Навінкі, вул. Рабочая, 33.*

# «Я ЛІЧУ ЗА ЛЕПШАЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ З НАРОДАМ...»

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

Нядаўна ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці быў пабудаваны эксперыментальны пасёлак сельскага тыпу з 10 дамоў, у якіх пасяліліся маладыя сем'і.

Аднак праблема пад'ёму вёскі, прыцягнення сюды людзей патрабуе пастаяннай увагі.

Так, у тым жа Гарадоцкім раёне да вайны пражывала звыш 116 тысяч жыхароў. Цяпер на гэтых багатых землях жыве ўсяго толькі 13 тысяч чалавек.

А толькі ж у адным Мінску ў інтэрнатах доўгія гады жывуць больш за 200 тысяч чалавек. Некаторыя гадуюць у інтэрнатах ужо ўнукаў.

Мы павінны стварыць такія ўмовы, каб людзі пажадалі жыць, працаваць і карміць свае сем'і на зямлі.

Зноў хацеў бы паўтарыць старую ісціну: «Будзе хлеб — будзе і песня». А песні на нашай зямлі ніколі не змаўкалі.

Гэта сведчыць аб духоўным і маральным здароўі народа, веры ў будучыню і імкненні да цудоўнага.

Толькі ў апошні час пры падтрымцы дзяржавы ў Беларусі адбыліся такія буйныя міжнародныя культурныя акцыі, як кінафестываль «Залаты віцязь» у Мінску, музычны фестываль «Славянскі базар» у Віцебску, фестываль нацыянальных культур у Гродне і шэраг іншых мерапрыемстваў.

Ды і ўвогуле, культурнае жыццё ў Мінску і абласцях кіпіць. Залы для гледачоў, карцінныя галерэі і тэатры не пустуюць.

Запэўніваю вас, што дзяржава і ў далейшым будзе падтрымліваць прафесіянальнае і самадзейнае мастацтва беларускага народа.

Упэўнены, што пры ўсіх існуючых цяжкасцях, нам удасца завяршыць у 1997 годзе будаўніцтва Палаца рэспублікі ў Мінску, які стане цэнтрам культурнага і духоўнага жыцця.

Паважаныя гродзенцы!

Пры ўсёй складанасці і напружанасці з бюджэтам Прэзідэнт і ўрад прымаюць меры для падтрымкі навукі і адукацыі.

Створаны і актыўна дзейнічаюць фонды падтрымкі таленавітай моладзі.

Літаральна гэтымі днямі ўпершыню былі прысуджаны прэміі цэламу шэрагу маладых вучоных.

Мною падрыхтаваны ўказы аб павелічэнні больш чым у два разы аплаты за навуковыя ступені кандыдата і доктара навук, матэрыяльным і маральным заахвочванні працы педагагічных і навуковых работнікаў.

За два гады ўдалося правесці цэлы шэраг сацыяльных мераў.

Мы змаглі ў цэлым нармалізаваць парадак выплат пенсій, стыпендый і іншых сацыяльных дапамог.

Рэгулярна аказваецца адрасная матэрыяльная дапамога маламаёмным катэгорыям грамадзян.

Так, у апошні час распараджэннем Прэзідэнта выдзелена больш за 74 млрд. рублёў шматдзетным сем'ям для закупкі школьнай формы і падручнікаў, а таксама сродкі для нарыхтоўкі бульбы і паліва малазабяспечаным пенсіянерам, якія жывуць адны.

Распрацавана і рэалізуецца дзяржаўная праграма летняга аздараўлення дзяцей. Ужо ў бягучым годзе практычна за кошт дзяржавы адпачылі і ўмацавалі здароўе ў летніх лагерах і здраўніцах каля мільёна беларускіх дзяцей.

Хачу заявіць, што за практычнай рэалізацыяй гэтых праграм Прэзідэнтам і яго Адміністрацыяй устаноўлены пастаянны кантроль.

У выніку жорсткіх патрабаванняў Прэзідэнта і ўрада не было дапушчана павелічэння колькасці беспрацоўных, а ў Мінску адбылося нават зніжэнне ўзроўню беспрацоўя.

Барацьба з беспрацоўем, у тым ліку і адміністрацыйнымі мерамі, дае магчымасць вырашыць не толькі сацыяльную, але і самую галоўную эканамічную задачу — захаваць унікальныя кваліфікаваныя працоўныя калектывы, без чаго немагчымы ніякі эканамічны пад'ём.

Усім зразумела, што ніякі пад'ём немагчымы без навядзення ў грамадстве парадку і дысцыпліны.

Важнейшая роля ў гэтай справе належыць праваахоўнай сістэме. Недахопы ў яе рабоце мы ўсе бачым і адчуваем на сабе. Разам з тым павінен адзначыць, што ў рабоце праваахоўных органаў намеціўся пералом да лепшага, адбываецца ачышчэнне ад людзей выпадковых і карыслівых, нячыстых на руку.

Пастаянна павышаецца патрабавальнасць да кіруючага саставу органаў унутраных спраў.

Пастаянны боль Прэзідэнта — наша чарнобыльская бяда. Мінулі 10 гадоў з дня трагедыі. Сорамна, але аб гэтым нельга змоўчаць: хтосьці на гэтай бядзе зрабіў палітычную кар'еру, хтосьці набіў кішэні. А простыя людзі засталіся адны са сваёй бядой.

Рэгулярна бываючы ў чарнобыльскай зоне, сустракаючыся са спецыялістамі і людзьмі, якія жывуць там, я пастаянна думаю аб дзвюх рэчах.

Першая. У лясах, за калючым дротам, па-ранейшаму застаюцца дзесяткі тысяч кюры радыеактыўных ізатопаў. А любы пажар або самы малы промах можа падняць іх у паветра, і тады адсяляць беларусаў ужо проста не будзе куды.

Другая. У выніку чарнобыльскай катастрофы рэспубліка страціла сотні тысяч гектараў самых урадлівых зямель.

Прэзідэнт і ўрад робяць усё, каб вярнуць гэтыя землі да жыцця.

Я нядаўна бачыў, як нашы вучоныя, рабочыя, адкрываючы і прымяняючы найноўшыя тэхналогіі, літаральна робяць цуды, атрымліваючы на гэтых землях экалагічна чыстую прадукцыю. Я і у далейшым буду рабіць усё, каб дапамагчы гэтым людзям і падтрымаць іх.

Паважаныя таварышы!

Часам прыходзіцца чуць, што Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ледзь не ў міжнароднай ізаляцыі.

Для такога вываду няма ніякіх падстаў.

Дарэчы, колькасць нашых замежных візіцёраў за дзяржаўны кошт апошнім часам стала настолькі вялікая, што Прэзідэнту прыйшлося ўзяць усе замежныя камандзіроўкі чыноўнікаў пад асабісты кантроль.

А калі гаварыць сур'ёзна, то нашы міжнародныя сувязі і кантакты актыўна развіваюцца па ўсіх напрамках.

Толькі за апошні час адбыліся афіцыйныя візіты і перамовы на вышэйшым узроўні з кіраўніцтвам такіх краін, як ЗША, Германія, Аўстрыя, Францыя, Турцыя.

Пачалі рэалізоўвацца такія буйныя інвестыцыйныя праекты, як «Форд дызель», «Дэўэлектронік», за кошт замежных інвестыцый ажыццяўляецца тэхнічнае і тэхналагічнае пераўзбраенне дзесяткаў прадпрыемстваў, у тым ліку і гродзенскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно».

Дасягнута пагадненне аб укладанні больш як 80 млн. долараў у развіццё Гродзенскай тытунёвай фабрыкі. Можна было б прывесці і іншыя прыклады.

Так, рэспубліка мае патрэбу ў замежных крэдытах, і мы ўдзячныя Міжнароднаму валютнаму фонду, Сусветнаму банку, Еўрапейскаму банку рэканструкцыі і развіцця, многім буйнейшым транснацыянальным карпарацыям, прыватным інвестарам за дапамогу, якую яны аказваюць, і вялікую сумесную ўзаемавыгадную работу.

Але, дарагія суграмадзяне, ва ўсім гэтым неабходна праяўляць разумную меру і гранічную асцярожнасць.

Мы павінны перш за ўсё шукаць унутраныя крыніцы інвесціравання. Як гэта зрабіла, напрыклад, Японія пасля паражэння ў другой сусветнай вайне, дзе аб'ём замежных інвестыцый быў зведзены да мінімуму.

Перавага была аддадзена закупцы сучасных прамысловых тэхналогій.

Мы не можам не ўлічваць і вопыт Венгрыі, дзе ўжо сёння сума замежных інвестыцый склала звыш 600 долараў на чалавека. Пры знешняй прывабнасці гэтай лічбы такая сітуацыя вельмі небяспечная.

Палітыка Прэзідэнта заключаецца не ў тым, каб адгарадзіцца ад Захаду «кітайскай сцяной».

Наадварот, мы робім усё, каб развіваць нармальныя эканамічныя, палітычныя, культурныя, навуковыя і іншыя адносіны з Захадам.

Але мы абавязаны рэальна ўлічваць сітуацыю і адпаведна расстаўляць акцэнты ў нашай палітыцы.

Менавіта такім крокам з'яўляецца створанае намі беларуска-расійскае Супольніцтва, пабудаванае на раўнапраўнай аснове, з улікам узаемных інтарэсаў, пры поўным захаванні суверэнітэту.

Аднак пры ўсёй відавочнасці і выгаднасці для рэспублікі заключанага з Расіяй дагавора аб утварэнні Супольніцтва, наш Вярхоўны Савет чамусьці не спяшаецца напоўніць яго канкрэтным зместам, прыняць законы ў развіццё тых прынцыпаў, якія закладзены ў дагаворы.

Паважаныя таварышы!

Сёй-той, азнаёміўшыся з гэтай часткай майго выступлення, можа сказаць: вось якую светлую карціну нарысаваў перад намі Прэзідэнт. Не, дарагія сябры, я добра разумею ўсю складанасць сітуацыі, што складваецца. Аднак неабходна спытаць сябе: у чым прычына такога становішча?

Для крытыкаў Прэзідэнта тут ніякіх пытанняў няма: вінаваты Прэзідэнт, які тармозіць правядзенне рэформаў.

Але ці так гэта?

Давайце паглядзім на іншыя рэспублікі былога Саюза, дзе рэфарміраванне эканомікі, як нас запэўніваюць, ідзе сямімільнымі крокамі. Хіба эканоміка іншых рэспублік былога Саюза не хварэе на тыя ж хваробы, што і мы? Можа, іх прадпрыемствы не зведваюць цяжкасцей з абаротнымі сродкамі? Можа, там няма затаварвання і ўсе атрымліваюць своечасова зарплату? Няма беспрацоўя? І зношанасць асноўных вытворчых фондаў меншая, чым у Беларусі?

Можа, нарэшце, якасць жыцця іх грамадзян дасягнула ўзроўню ЗША або Германіі?

А эканамічны ж патэнцыял многіх з іх непараўнальны з патэнцыялам Беларусі.

У іх і газ, і нафта, і сыравіна, і многае іншае, што Беларусь вымушана купляць.

Калі гаварыць коратка, то прычына нашых сённяшніх цяжкасцей заключаецца, на мой погляд, у той непрадуманай палітыцы, якую праводзіла былое кіраўніцтва рэспублікі пасля набыцця суверэнітэту.

Непрадуманасць гэта заключалася ў тым, што мы пачалі ўсе разбураць, не маючы ніякага ўяўлення аб тым, што будзем будаваць.

Вярхоўны Савет не стварыў неабходную прававую базу пад цывілізаванае рэфарміраванне эканомікі.

Вы памятаеце крылатую фразу часоў перабудовы: «Дазволена ўсё, што не забаронена законам».

Паколькі заканадаўчая база пад перабудову эканомікі не была створана, то і аказалася, што дазволена ўсё.

У выніку ў рэспубліцы ішло не рэфарміраванне эканомікі, а злачыннае расцягванне і раскраданне агульнанароднай уласнасці.

Нязначная частка людзей неймаверна ўзбагацілася, а пераважная большасць народа — збяднела.

Гэтаму трэба было пакласці канец.

Свядомай хлуснёй з'яўляецца сцвярджэнне аб тым, што Прэзідэнт супраць рэформаў, супраць прадпрымальніцтва.

Наадварот, усе гэтыя гады намаганні Прэзідэнта былі накіраваны на тое, каб увесці працэс рэфарміравання эканомікі ў цывілізаваныя, законныя і маральныя рамкі.

Пан Багданкевіч і іншыя нашы ліберальныя эканамісты ніяк або не могуць, або не хочуць зразумець, што гэта такое. А разам з тым ідэя вельмі простая: чаму мы аддаём перавагу — працы ці капіталу?

Сутнасць капіталізму ў тым, што ён аддае перавагу капіталу. Сутнасць сацыялізму ў тым, што ён аддае перавагу працы.

Нас пытаюць: а навошта такое проціпастаўленне аднаго другому і што вы маеце супраць капіталу? Чаму вы заглядваеце ў чужую кішэню?

Мы не супраць капіталу, не супраць таго, каб у кожнай кішэні быў капітал і чым больш, тым лепш.

Але ці не мае сэнсу пытанне аб тым, якім чынам гэты капітал апынуўся ў кішэні. Праца стварае капітал, а не наадварот. І калі ў аснове вашага капіталу ляжыць не ваша, а ўкрадзеная праца, то гэта крымінальны капітал. Мы супраць такога капіталу.

Прэзідэнту ставяць у віну тое, што ён пачаў праводзіць палітыку дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю банкаў. Адразу хачу заявіць, што ні я, ні ўрад не ставяць сваёй мэтай дробязную апеку або разгону банкаў. Наша мэта ў тым, каб навесці парадак у банкаўскай сферы.

Вы глядзіце, што атрымалася. Наш Вярхоўны Савет вывеў Нацыянальны банк з падначалення ўрада, ператварыўшы яго па сутнасці ў дзяржаву ў дзяржаве.

Урад і дзяржаўныя прадпрыемствы вымушаны былі канкурыраваць за атрыманне крэдытаў з камерцыйнымі структурамі.

Але хіба ж няясна было пану Багданкевічу, што ніякай канкурэнцыі ўрад і дзяржаўныя прадпрыемствы не вытрымаюць.

Урад браў крэдыты пад доўгатэрміновыя дзяржаўныя праграмы, а камерцыйныя структуры — пад аферы: купіў — прадаў — атрымаў барыш.

Па сутнасці, наш Нацыянальны банк стварыў банкаўскую сістэму, якая фінансавала і крэдытавала за кошт народа не эканоміку, а спекуляцыю і грабеж. Я пытаюся, ці трэба было наводзіць тут парадак, ці не?

Прэзідэнта абвінавачваюць у тым, што ён не падтрымлівае прадпрымальнікаў. Ці магу я падтрымліваць усіх прадпрымальнікаў? Давайце паглядзім, якім чынам ствараліся некаторыя так званыя АТ, ТАА, МП і г.д.

Хіба ж не факт, што грошы, якія выдзяляе ўрад прадпрыемствам на мадэрнізацыю вытворчасці, заработную плату і іншыя патрэбы, «стараннямі» многіх былых дырэктараў часта выкарыстоўваліся не па прызначэнню, а асядалі ва ўсіх гэтых камерцыйных структурах, якія, як п'яўкі, абляпілі заводы, фабрыкі і смакталі фінансавую кроў у нашай эканоміцы.

Так утвараўся першапачатковы крымінальны капітал.

Прыклад «Гарызонта» і эпапея яго былога дырэктара А.Санчукоўскага — яркае пацвярджэнне гэтага. Я пытаюся, ці трэба было тут наводзіць парадак?

Прэзідэнту ставяць у віну, што ён нібыта неправамерна арыентуецца на Расію. Мае кантакты з дзелавымі коламі Захаду пераканаўча гэта абвяргаюць.

Наша арыентацыя на Расію, калі браць чыста эканамічны бок справы, выклікана рэальнай ацэнкай сусветнай эканамічнай кан'юнктуры.

Давайце разважаць проста: якую мэту вы ставіце, выходзячы на рынак?

Не трэба вялікага розуму, каб зразумець. Чалавек выходзіць на рынак, каб прадаць атрыманую прадукцыю і купіць тавар, які яму неабходны.

Мы маем высокатэхналагічны вытворчы патэнцыял, высокакваліфікаваную рабочую сілу, якія даюць магчымасць нам выпускаць прадукцыю самага высокага ўзроўню. Але ў нас няма сыравіны, няма энерганосьбітаў.

Дзе мы ўсё гэта можам атрымаць?

Толькі чалавек, які або нічога не разумее ў стане сучаснай сусветнай эканомікі, або свядома падманвае свой народ, можа гаварыць аб тым, што і сыравіну, і энерганосьбіты мы можам атрымаць у Заходняй Еўропе. Еўрапейскія краіны самі сядзяць на прывазных сыравіне і энерганосьбітах.

У Еўропе нас ніхто не чакае з нашай прадукцыяй.

Сусветны рынак ужо даўно падзелены. Наш рынак збыту ў асноўным у Расіі і іншых дзяржавах СНД. Вось чаму мы ініцыіравалі ўзнаўленне адзінай эканамічнай прасторы. Таму мы так настойліва змагаемся за мытны саюз.

Што ж прапануюць крытыкі Прэзідэнта? Ці ёсць у іх рэальная праграма выхаду з эканамічнага крызісу?

Аўтарытэтна заяўляю, нічога падобнага ў іх няма. Вы паглядзіце на тыя праграмы, якія прапануюць апазіцыянеры. Калі адкінуць лозунгі і траскучыя фразы, то па сутнасці гэтыя праграмы зводзяцца толькі да аднаго: перадаць дзяржаўную ўласнасць у прыватныя рукі і амнісціраваць накрадзены капітал.

Прэзідэнта абвінавачваюць у парушэнні Канстытуцыі і законаў. На жаль, становішча ў нашым заканадаўстве такое, што Прэзідэнт часта не можа выконваць адзін закон, не парушаючы другога. Яно падобна на міннае поле.

9 студзеня 1996 года пры адкрыцці першай сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання я ўнёс цэлы шэраг канкрэтных прапаноў. Усе яны былі дэпутатамі праігнараваны. Хацеў бы напомніць іх.

Я прапаноўваў зрабіць таннейшай работу Вярхоўнага Савета, праводзіць дзве сесіі ў год па паўтара-два месяцы. Рэальна першая сесія новага Вярхоўнага Савета працягвалася 6 месяцаў. Было прынята 6 законаў, сярод якіх самым «неабходным» для рэспублікі аказаўся закон аб трансплантацыі чалавечых органаў, які ўпарта праштурхоўвалі паны дэмакраты.

Прэзідэнт узяў на сябе смеласць зрабіць таннейшай работу Вярхоўнага Савета. У тры разы была скарочана колькасць аўтамабільнага транспарту, што абслугоўваў дэпутатаў, узята пад кантроль фінансаванне замежных камандзіровак.

Я лічу, што 200 дэпутатаў для правядзення заканатворчай работы цалкам дастаткова, і прапанаваў аб'явіць мараторый на ўсялякія выбары. Аднак і правыя, і левыя аднагалосна назначылі новыя выбары на канец восені гэтага года, відаць, не жадаючы займацца чарнавой заканатворчай работай. Я адназначна заяўляю: новых выбараў не будзе.

Я прапаноўваў заканадаўча аформіць вынікі майскага 1995 года рэферэндуму. Гэта пытанне дэпутатамі нават не абмяркоўвалася.

І самае галоўнае, я ўносіў прапанову стварыць кодэксы законаў, звесці іх разам, упарадкаваць, выключыць супярэчнасці, якія ёсць паміж імі. Нам сёння патрэбны Грамадзянскі, Мытны, Падатковы і іншыя кодэксы. Прычым ёсць добрыя напрацоўкі Міжпарламенцкай асамблеі СНД.

Але і гэта прапанова Прэзідэнта дэпутатамі Вярхоўнага Савета была праігнаравана.

Затое яны знайшлі час на працягу двух дзён абмяркоўваць праблемы прастрэленых ягадзіц маладой супрацоўніцы аднаго дэпутата.

На мой погляд, у наяўнасці няздольнасць Вярхоўнага Савета і яго кіраўніцтва арганізаваць дзелавы і рэзультатыўны заканатворчы працэс. Вось і сёння многія дэпутаты зноў заняліся прапагандай і агітацыяй у асноўным супраць Прэзідэнта. Але ў мяне ёсць звесткі, што жадаючых слухаць іх вельмі мала, у тым ліку і ў Гродзенскай вобласці.

Жыццё, патрэбнасці эканамічнага, сацыяльна-палітычнага развіцця рэспублікі настойліва патрабуюць удасканалення і фарміравання сучаснай заканатворчай базы. І перш за ўсё прывядзення ў адпаведнасць з гэтымі патрабаваннямі Асноўнага закона дзяржавы — Канстытуцыі.

Улічваючы гэту грамадскую патрэбнасць, мною была створана група з буйных вучоных-правазнаўцаў і юрыстаў-практыкаў, якой было даручана з улікам вопыту канстытуцыйнага будаўніцтва вядучых дэмакратычных краін прапрацаваць дапаўненні і змяненні, гэта значыць стварыць новую рэдакцыю Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэты дакумент быў абмеркаваны кіраўніцтвам рэспублікі, і я прыняў рашэнне вынесці новую рэдакцыю Канстытуцыі на ўсенароднае абмеркаванне і галасаванне. Адпаведныя матэрыялы накіраваны ў Вярхоўны Савет і ў хуткім часе будуць апублікаваны.

Павінен асабліва падкрэсліць, што пытанне не ставіцца аб тым, каб адмовіцца ад Канстытуцыі, якая дзейнічае цяпер.

Размова ідзе толькі аб некаторых змяненнях і дапаўненнях, якія рэальна забяспечылі б раздзяленне заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў і тым самым ліквідавалі б крыніцу канфрантацыі паміж імі.

(Заканчэнне на 3-й стар.)



## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па заходняй палавіне кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 22—24, Мінску, Брэсце — 23—25, Віцебску — 24—26, Магілёве, Гомелі — 25—27 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць. 18-га па паўднёва-заходняй палавіне рэспублікі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы; 19-га пераважна без ападкаў.

Тэмпература ўначы — 11—16, удзень — 20—27, 19 жніўня па паўднёваму ўсходу — да 29 градусаў.

**Калектыў супрацоўнікаў цэнтральнага апарату Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне начальніку Брэсцкага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Аркадзю Аляксандравічу Лежаню ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

# «Я ЛІЧУ ЗА ЛЕПШАЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ З НАРОДАМ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1,2 стар.)**

Акрамя таго, адобраная народам Канстытуцыя надасць ёй вышэйшую форму легітымнасці, гэта значыць законнасці.

Дарэчы, такога ўсенароднага адабрэння патрабуе і прынцып народаўладдзя, які абвяшчаецца ў арт. 3 цяперашняй Канстытуцыі.

Я цытую: «Адзінай крыніцай улады ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе ўладу непасрэдна і праз сваіх прадстаўнікоў у органах дзяржаўнай улады».

Гэта значыць, па-першае, што народ, і толькі ён адзін, з'яўляецца абсалютна суверэнным суб'ектам права і ўлады на сваёй тэрыторыі. Усякая іншая ўлада — прэзідэнцкая, парламенцкая, судовая — вытворная, другасная.

Гэта значыць, па-другое, што народ не ўсе свае правы дэлегуе органам дзяржаўнай улады. Частку гэтых правоў ён пакідае ў выключнай сваёй кампетэнцыі. Што гэта за правы? Звычайны разважны сэнс падказвае, што ў выключным распараджэнні народа застаюцца пытанні, якія маюць фундаментальнае, асноватворнае значэнне для жыцця грамадства і дзяржавы. Гэта, дарэчы, зафіксавана і ў артыкуле 73 Канстытуцыі.

Я пытаюся, што можа быць больш фундаментальным для жыцця грамадства і дзяржавы, чым Канстытуцыя, г. зн. Асноўны закон?

Ці можна лічыць нармальным з прававога пункту гледжання, калі Вярхоўны Савет шляхам сумніўнай працэдуры «хатняга галасавання» прыняў Канстытуцыю, навязаўшы, па сутнасці, грамадству сваю волю.

Воля трохсот пяцідзесяці дэпутатаў стала Асноўным законам дзяржавы. З прававога пункту гледжання гэта азначае, што народ з суб'екта ўлады быў ператвораны ў аб'ект улады. А калі гаварыць прасцей — у маўклівую масу.

Хацеў бы звярнуць увагу яшчэ на адну важную акалічнасць.

Вярхоўны Савет, прыняўшы Канстытуцыю, вядома, прысвоіў сабе права ўносіць у яе і любыя змяненні.

А цяпер уявіце сабе такую карціну. Сёння ў Вярхоўным Савеце атрымаюць канстытуцыйную большасць камуністы. Хіба не ясна, што яны тут жа пачнуць кроіць Канстытуцыю пад сваю партыйную праграму?

На наступных выбарах, напрыклад, да ўлады прыйдуць лібералы, а за імі — нацыянал-радыкалы, якія засадзяць палову народа ў канцлагеры на аснове прынятай імі ж Канстытуцыі. Вось і атрымаецца, што мы замест Канстытуцыі будзем мець «трышкін кафтан», які кожны будзе кроіць па свайму густу і росту.

Не можа быць стабільнасці ў дзяржаве, дзе нестабільны яго Асноўны закон.

Прыняўшы Канстытуцыю ўсенародна, мы паставім заслон заканатворчаму свербу нашых дэпутатаў і тым забяспечым канстытуцыйную стабільнасць грамадства.

З гэтага часу ніхто, акрамя самога народа, не зможа мяняць Канстытуцыю або ўносіць у яе якія б там ні было змяненні.

Спыняцца ўсякія размовы на тэму: добрая або нядобрая Канстытуцыя. Таму што воля народа — вышэйшы закон. Закон для ўсіх: і для Вярхоўнага Савета, і для Прэзідэнта, і для Канстытуцыйнага суда.

Якімі меркаваннямі кіраваўся Прэзідэнт, уносячы змяненні і папраўкі ў цяпер дзеючую Канстытуцыю?

Тым прававым прынцыпам, што толькі народ, як адзіная крыніца ўлады, мае права вырашаць не толькі, якую частку сваіх правоў ён перадае дзяржаве, але і якія з гэтых правоў ён дэлегуе розным дзяржаўным інстытутам: Прэзідэнту, Вярхоўнаму Савету, Канстытуцыйнаму суду.

Гэты асноватворны прававы прынцып быў парушаны мінулым Вярхоўным Саветам.

Ён не толькі ўзурпіраваў права прыняцця Канстытуцыі, але і па ўласнаму самавольству размеркаваў уладныя паўнамоцтвы паміж заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладамі. А хто ж сябе абдзеліць, калі права дзяльбы будзе дадзена яму? Не абдзяліў сябе і Вярхоўны Савет.

У цяперашняй сістэме ўлады Вярхоўны Савет дамінуе і над Прэзідэнтам, і над Канстытуцыйным судом. Па сутнасці, ён усемагутны.

Вярхоўны Савет надзяліў сябе правам прыняцця Канстытуцыі і ўнясення ў яе змяненняў і дапаўненняў, ён прымае законы, ён жа надзелены выключным правам тлумачэння законаў, у тым ліку і канстытуцыйных.

Інакш кажучы, дыктуе правілы гульні, па якіх павінны гуляць усе: і грамадства, і Прэзідэнт, і Канстытуцыйны суд. Але хіба ж гэта не азначае, што ён фактычна ўсеўладны?

Усяго два прыклады. Згодна з Канстытуцыяй, якая цяпер дзейнічае, Вярхоўны Савет можа адхіліць Прэзідэнта ад улады ў выпадку сістэматычнага парушэння ім Канстытуцыі і законаў.

Але давайце зададзімся іншым пытаннем: а ці дазволена Вярхоўнаму Савету парушаць Канстытуцыю і законы? Будучы надзелены правам уносіць любыя змяненні ў Канстытуцыю і аб'яўляць страціўшымі сілу любыя іншыя законы, Вярхоўны Савет на цалкам законнай падставе можа парушаць і Канстытуцыю, і законы ў форме ўнясення змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю і аб'яўлення страціўшымі сілу любых законаў.

Зусім лагічна таму, што цяперашняя Канстытуцыя, надзяляючы Вярхоўны Савет правам адхілення Прэзідэнта ад пасады, Прэзідэнту права датэрміновага роспуску Вярхоўнага Савета не дае. Я пытаюся, дзе тут раўнавага ўладаў?

Другі прыклад. Вярхоўны Савет надзелены выключным правам тлумачэння Канстытуцыі і законаў. Я пытаюся, як у такой сітуацыі можа дзейнічаць Канстытуцыйны суд? Любое ж рашэнне Канстытуцыйнага суда Вярхоўны Савет можа не прызнаць на той падставе, што Канстытуцыйны суд няправільна «тлумачыць» Канстытуцыю і законы.

Далей. Прынцып раздзялення ўладаў можа быць захаваны толькі пры той абавязковай умове, калі ўсе тры галіны ўлады аднолькава правасуб'ектныя. Я пытаюся, ці мае гэту роўную правасуб'ектнасць Канстытуцыйны суд, калі ён выбіраецца Вярхоўным Саветам? Ці будзе ён незалежны ў сваёй дзейнасці?

Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што наш Канстытуцыйны суд практычна ператварыўся ў орган, які абслугоўвае празмерныя дамаганні Вярхоўнага Савета?

Вазьміце Закон аб выбарах. Згодна з нормамі, якія ў ім закладзены, радавы грамадзянін Рэспублікі Беларусь можа балаціравацца ў Вярхоўны Савет або па месцы работы, або па месцы жыхарства. А вось дэпутат можа балаціравацца на новы тэрмін у любым пункце рэспублікі.

Чаму Канстытуцыйны суд, які надзелены правам самастойна ініцыіраваць справу аб неадпаведнасці любога закона Канстытуцыі, прамаўчаў, хоць зусім відавочна, што Закон аб выбарах груба парушае Канстытуцыю, якая абвяшчае роўнасць грамадзян перад законам?

Уносячы змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю, Прэзідэнт кіраваўся адзінай мэтай: каб у нашай Канстытуцыі ў поўнай меры быў рэалізаваны прынцып раздзялення ўладаў.

А гэта стане магчымым толькі тады, калі пытанне аб аб'ёме паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета, Прэзідэнта і Канстытуцыйнага суда будзе вырашана ў Канстытуцыі, прынятай народам, а ўсе тры галіны ўлады будуць дзейнічаць у строгай адпаведнасці з ёй.

Прэзідэнт павінен быць надзелены правам датэрміновага роспуску Вярхоўнага Савета ў выпадку парушэння ім Канстытуцыі, як гэта і прадугледжана вынікамі майскага, 1995 г., рэферэндуму.

Хацеў бы адзначыць, што гэта недасканаласць нашай Канстытуцыі ў частцы раздзялення ўладаў адзначана ў заключэнні Еўрапейскай камісіі Савета Еўропы, дзе прама сказана, што ў Законе «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» і ў Законе «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» узаемаадносіны паміж абодвума інстытутамі распрацаваны такім чынам, што Вярхоўны Савет дамінуе над Прэзідэнтам, што яны дапускаюць адхіленні ад прынцыпу раздзялення ўладаў і тым самым адкрываюць шлях да ўмяшання заканадаўчай улады ў сферу выканаўчай улады.

Я яшчэ раз вымушаны падкрэсліць, што справа не ў падзеле ўлады.

Справа ў тым, што пастаяннае імкненне Вярхоўнага Савета выйсці за рамкі сваіх паўнамоцтваў перашкаджае Прэзідэнту як кіраўніку дзяржавы і выканаўчай улады выконваць ускладзеныя на яго функцыі.

У новай рэдакцыі Канстытуцыі прадугледжваюцца механізмы рэалізацыі сацыяльных гарантый грамадзян, у тым ліку права на жыллё, адукацыю, валодання і прымнажэння ўласнасці.

Я прапаную вынесці праект новай рэдакцыі Канстытуцыі на ўсенароднае абмеркаванне. Спадзяюся, што ў абмеркаванні праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі прымуць удзел самыя шырокія слаі насельніцтва. Запрашаю вучоных, спецыялістаў права і іншых галін ведаў да ўдзелу ў рабоце па растлумачэнню праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі рэспублікі.

У гэтых жа мэтах прынята рашэнне 14 верасня бягучага года ў г. Мінску склікаць Беларускі нацыянальны кангрэс, на якім будуць прадстаўнікі працоўных калектываў, рэгіёнаў, усіх сацыяльных груп і слаёў.

Наступнае пытанне, якое выносіцца Прэзідэнтам на рэферэндум, гэта пытанне аб зямлі.

Пытанне гучыць так: «Ці выступаеце вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?»

Чым выклікана пастаноўка гэтага пытання? Трэба разумець, што размова ідзе аб асноўным нацыянальным багацці рэспублікі. Як кіраўнік дзяржавы я не лічу магчымым вырашаць гэта пытанне, не спытаўшыся думкі народа.

Трэба ў поўнай меры ўсведамляць і іншае: пытанне аб зямлі — гэта не толькі пытанне аб форме ўласнасці. Гэта і пытанне аб тэрыторыі дзяржавы. А значыць, і пытанне аб дзяржаўным суверэнітэце.

Свабодная, без абмежаванняў, купля-продаж зямлі стварае рэальную небяспеку, што яна акажацца не толькі ў руках тых, хто і не думае на ёй працаваць, але і ў руках іншаземных грамадзян.

Нам гавораць: «Не павязуць жа зямлю за мяжу». Сапраўды, не павязуць. Але яе і неабавязкова везці.

Можна прымяняць розныя санкцыі для абароны правоў і ўласнасці сваіх грамадзян.

Хіба мы не чуем ужо сёння заявы кіраўнікоў некаторых заходніх дзяржаў, што яны маюць намер абараняць свае нацыянальныя інтарэсы і інтарэсы сваіх грамадзян у любым пункце зямнога шара? Адным словам, пытанне вельмі сур'ёзнае, каб вырашаць яго групай асоб нават самага высокага ўзроўню. Тут павінна быць цвёрдая і ясная воля ўсяго народа.

Трэцяе пытанне: «Ці падтрымліваеце вы адмену пакарання смерцю ў Рэспубліцы Беларусь?» Чым выклікана пастаноўка гэтага пытання? Хацеў бы заўважыць, што гэта пытанне не толькі гуманізму. Гэта пытанне міжнародна-прававога характару. Рэспубліка Беларусь стаіць перад перспектывай стаць членам Савета Еўропы. А членства ў гэтай арганізацыі звязана з міжнародна-прававымі абавязацельствамі, у тым ліку і з абавязацельствам рухацца ў напрамку адмены пакарання смерцю. Ці гатовы мы на сучасным узроўні правасвядомасці, пры цяперашніх сацыяльна-эканамічных умовах узяць на сябе такое абавязацельства? Ці гатовы мы да гэтага?

І нарэшце, пытанне аб галоўным нашым нацыянальным свяце — Дні Рэспублікі.

Прапануецца адказаць на пытанне: ці згодны вы перанесці гэта свята на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў?

Вы ведаеце, што вакол даты правядзення гэтага свята няма згоды ў грамадстве. Каб не абвастраць страсці, не параджаць канфрантацыю і напружанасць у грамадстве, Прэзідэнт палічыў неабходным перадаць вырашэнне гэтага пытання на суд народа. Як народ вырашыць, так і будзе.

Паважаныя суайчыннікі!

Выносячы гэтыя пытанні на ўсенародны рэферэндум, Прэзідэнт дзейнічае строга ў адпаведнасці са сваімі правамі і паўнамоцтвамі, кіруецца пачуццём адказнасці за лёс рэспублікі, інтарэсамі ўстанаўлення ў Беларусі сапраўднага народаўладдзя.

Я не належу ні да адной з палітычных партый. Як Прэзідэнт і кіраўнік дзяржавы я абавязаны выконваць волю народа і толькі яго волю.

Таму я не пайду ні на якія партыйныя пасядзелкі, ні на якія сталы, ні круглыя, ні на шматвугольныя.

Я лічу за лепшае раіцца з народам, а не з тымі, хто, узвёўшы сябе ў палітычную «эліту», узяў моду гаварыць ад імя народа.

Хіба ж не дзіўна, што гэта т. зв. «эліта», да месца і не да месца скланяючы слова «народ», баіцца выслухаць і прыняць да выканання слова і волю гэтага народа?

Прэзідэнт не навязвае нікому сваёй волі. Наадварот, ён хоча пачуць думку людзей.

Магу запэўніць маіх суграмадзян, што я гэтак жа няўхільна буду выконваць вашу волю, як выконваю ў меру магчымасцей, якія мае сёння рэспубліка, свае перадвыбарныя абяцанні.

Выносячы на суд народа новую рэдакцыю Канстытуцыі і іншыя пытанні рэферэндуму, Прэзідэнт робіць першы крок на шляху вырашэння сапраўды гістарычнай задачы: ператварэнне нашай рэспублікі ў сучасную высокаразвітую цывілізаваную дзяржаву.

Мы маем рэальную праграму фарміравання ў Рэспубліцы Беларусь нармальнай рыначнай эканомікі, якая адпавядае сучасным сусветным эканамічным тэндэнцыям.

Мы маем рэальную праграму ператварэння Беларусі ў дзяржаву сапраўднага народаўладдзя.

Але, каб гэтыя праграмы ажыццявіць, неабходны вашы адабрэнне і падтрымка.

І я не сумняваюся, што Прэзідэнт іх атрымае.

---

zepter INTERNATIONAL

## «ZEPTER»: мы валодаем сакрэтамі здаровага харчавання і прыходзім з місіяй здароўя на ўсе кантыненты

**Прадукцыя сусветна вядомай швейцарскай фірмы «Zepter» сёння наўрад ці патрабуе асаблівага прадстаўлення. Заўзятыя гаспадыні, каралевы кухняў добра ведаюць посуд «Zepter», у якім, як вядома, можна гатаваць без тлушчу, вады і солі. Апошнім часам фірма прадае ўласныя электрамасажоры і касметыку з аднайменнай назвай.**

На чарзе — цэптараўскі фарфор і шмат іншых навінак, з якімі наша газета рэгулярна будзе знаёміць сваіх чытачоў.

Пры ўсёй адметнасці і разнастайнасці асартыменту «Zepter» ільвіную долю гандлёвага абароту прадпрыемства складае посуд, што зусім не выпадкова, паколькі дэвіз работы «Zepter» — здароўе нацыі.

Сёння няма сумненняў у тым, што правільнае харчаванне з'яўляецца важнейшым экалагічным фактарам не толькі нармальнага фізічнага, а часцей і псіхічнага развіцця чалавека, але і здароўя нацыі ў цэлым.

Філасофія рацыянальнага харчавання і здаровага ладу жыцця і ўвасоблена ў галоўным дасягненні фірмы «Zepter» — Сістэме, што азначае: кожнаму чалавеку, які зрабіў выбар на карысць збалансаванага харчавання, даецца магчымасць з яе дапамогай гатаваць смачныя стравы без тлушчу, вады і солі.

Пры гэтым поўнасцю захоўваецца пах, колер, усе пажыўныя рэчывы і кансістэнцыя прадуктаў.

Канчатковы вынік: у вас на стале з'яўляюцца апетытныя стравы, у якіх захаваны амаль усе вітаміны і мінеральныя рэчывы, неабходныя для вашага здароўя.

На Беларускім рынку «Zepter» працуе ўжо два гады. За гэты час фірма паспела набыць сваіх прыхільнікаў і пакупнікоў у асобе дзесяткаў тысяч людзей. Кола жадаючых абзавесціся унікальным посудам пастаянна расце. Дарэчы, стаж работы «Zepter» на сусветным рынку налічвае 20 гадоў. Яго ўласныя заводы маюцца ў Італіі, Аўстрыі, Германіі, Англіі, Францыі. А гандлюе «Zepter» сваімі цуда-вырабамі амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах, у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Азіі, за выключэннем, вядома, Антарктыды.

Для таго, каб пасябраваць з посудам «Zepter», дастаткова ведаць некалькі простых ісцін.

**Па-першае, «Zepter» дазваляе палепшыць стан здароўя людзей за кошт правільнага харчавання.**

Гэты посуд выраблены з медыцынскай сталі (сплаву хрому і нікелю), якая выкарыстоўваецца для вытворчасці хірургічнага інструментарыя і не ўступае ў хімічныя рэакцыі ні з якімі прадуктамі. А прыгатаванне стравы без вады захоўвае солі і мінеральныя рэчывы, якія пры звычайнай варцы аказваюцца ў вадзе. Канструкцыя посуду дазваляе гатаваць ежу пры тэмпературы ніжэй за 100° С, з-за чаго захоўваюцца амаль усе вітаміны.

**Па-другое, з посудам «Zepter» вы ніколі не спозніцеся на работу.**

Раскошны суперсучасны дызайн посуду «Zepter» тоіць у сабе не толькі імкненне стварыць вам добры настрой, але і паклапаціцца аб максімальных зручнасцях для вас. З посудам «Zepter» вам не прыйдзецца вынаходзіць падчас пятую канфорку, паколькі набор посуду дазваляе гатаваць пяць страў адначасова і ўсяго на адной канфорцы;

**Па-трэцяе, «Zepter» гарантуе вам і ўласнае даўгалецце.**

Фірма ўпэўнена: з яе посудам доўгажыхарамі будзеце не толькі вы. І сам посуд, які выраблены па унікальнай тэхналогіі з экалагічна чыстых металаў, таксама будзе доўга і безадмоўна служыць вам.

А таму фірма на ўсю сваю прадукцыю дае пажыццёвую гарантыю.

**Па-чацвёртае, маючы ў доме посуд «Zepter», вы не будзеце мець сямейных скандалаў на глебе раздражнення вашага страўніка якасцю стравы і яе аднастайнасцю.**

У посудзе «Zepter» гатаваць дрэнна — не проста сорамна. Гэта немагчыма. Як і не гатаваць зусім: працэс прыгатавання па захапляльнасці можна параўнаць толькі з праглядам захапляльных тэлесерыялаў.

**Па-пятае, «Zepter», як ні дзіўна, самы недарагі посуд. Каб у гэтым упэўніцца, дастаткова ўзяць бухгалтарскі калькулятар і палічыць:**

— колькі каштуе здароўе, захаванае дзякуючы «Zepter»;

— колькі каштуе зэканомлены час;

— колькі каштуе энергія, калі посуд «Zepter» бярэ яе толькі 30 працэнтаў, а 70 пры гэтым захоўваецца.

Дадайце сюды эканомію тлушчу, масла, солі — і вам стане ясна, што без посуду «Zepter» на вашай кухні не абысціся. А заадно некалькі рэцэптаў ад «Zepter». Каб стравы атрымаліся смачнымі — адна ўмова: карыстайцеся посудам «Zepter».

### Індыйскае «кары»

*2 шклянкі рыса (рыс папярэдне замачыць), 1 тушка курыцы, парэзаная на кавалачкі, або 1 кг свініны, 2 галоўкі цыбулі, 3 морквіны, 12—15 зубкоў часнаку, 50 г сухафруктаў (разынак), 50 г курагі, 5 шт. чарнасліву, 3-4 шт. інжыру, 3-4 шт. фінікаў, карыца і міндальны арэх (молатыя).*

*У халодны посуд ёмістасцю 5,5 л пакласці курыцу або свініну. Зверху пакласці кольцамі парэзаную цыбулю, затым нацёртую на буйной «цэптар-тарцы» моркву і палову порцыі рысу. Пакласці на рыс зубкі часнаку і палову сухафруктаў. Затым выкласці астатні рыс і астатнія сухафрукты. Пасыпаць страву карыцай і міндальным арэхам.*

### Рыба

*На посуд ёмістасцю 5,5 літра ўстанавіць 2-і ўзровень — сатэйнік. На дно сатэйніка пакласці слой бульбы, парэзанай кружочкамі, слой цыбулі, кавалачкі скумбрыі (2 тушкі, нарэзаныя парцыённа), зверху — слой морквы.*

### Дэсерт

*На моркву пакласці палову яблыкаў (папярэдне выдаліць сярэдзіну), начыненыя журавінамі. Зверху паліць мёдам (1 кафейная лыжка). Сатэйнік накрыць накрыўкай. Давесці паказанні тэрмарэгулятара да 3/4 зялёнага поля і гатаваць у такім рэжыме 50 хвілін. Пры падачы на стол індыйскае «кары» паліць аліўкавым або сланечнікавым алеем і перамяшаць.*

**Прыемнага апетыту! Спадзяёмся, што вам спадабаецца. «Звязда» мяркуе, што супрацоўніцтва з фірмай «Zepter» будзе працягвацца, а таму, паважаныя чытачы, сачыце за нашай газетай і вы знойдзеце для сябе шмат цікавага.**

**Па пытаннях набыцця посуду «Zepter», а таксама для атрымання пэўнай інфармацыі ці кансультацыі можна звяртацца ў «Zepter» на Беларусі па наступных тэлефонах:**

**Мінск — 237-62-51**
**Брэст — 25-16-68**
**Віцебск — 37-45-16**
**Гродна — 44-41-99**
**Гомель — 57-70-48**
**Бабруйск — 7-57-16**
**Баранавічы — (8-01634) 5-53-51**
**Салігорск — (8-210) 4-65-75**
**Дзяржынск — (8-216) 6-52-52**
**Клецк — (8-293) 5-56-00**
**Узда — (8-218) 5-24-51.**



# Песні цыганоў на вуліцы Герасіменкі

**УСХЛІПНУЛА ЎСІМІ СТРУНАМІ скрыпка, узяла кранальныя акорды гітара — і палілася журботна-пяшчотная мелодыя. А ўслед за ёй загучалі галасы — моцныя, пералівістыя, хрыплаватыя і адначасова незвычайна мяккія — так умеюць спяваць толькі цыганы. А словы, незразумелыя, гучныя, адрывістыя словы нібы выказвалі вечную, нікім не зразуметую тугу старажытнага вандроўнага народа, яго любоў да прастору, да бясконцых неспазнаных шляхоў... Пасля журботнай мелодыя змянілася жыццярадаснай, імклівай, нібы закружыўшы вакол віхор шырачэзных яркіх спадніц, нібы пачуўся звон цяжкіх маністаў і бранзалетаў. Здалося, што ў звычайнай гарадской кватэры на ўскраіне Мінска пацягнула раптам дымам начнога кастра, пачулася далёкае ржанне стрыножаных коней і прыцішаны шэлест роснай травы пад босымі загарэлымі нагамі...**



Так я пазнаёмілася з артыстамі тэатра цыганскай песні «Гілля рамэн», трапіўшы на адну з рэпетыцый. Падчас яе давялося пачуць шмат прыгожых песень на цыганскай і рускай мове. А калі праца скончылася, мы з кіраўніком тэатра Зояй Сасыгінай пагутарылі пра яе «дзіця» — «Песні цыганоў» (так у перакладзе называецца тэатр).

**— Зоя Аляксандраўна, як узнікла ідэя стварэння тэатра цыганскай песні ў Мінску?**

— Я з дзяцінства захоплена цыганскай песняй. Так, як спяваюць цыганы, не спявае, бадай, ніхто. Раней я сама спрабавала спяваць рамансы. Потым, ужо прыехаўшы ў Мінск, арганізавала балет «Архідэя», рэпертуар якога складалі цыганскія танцы. Ідэю стварэння калектыву, які б яшчэ і спяваў, выношвала ўжо даўно, але адна справа — хацець, зусім іншая — рэалізоўваць задуманае. Тым больш, я бачыла, як хутка распадаюцца падобныя ансамблі, так і не дасягнуўшы належнага прафесіянальнага ўзроўню... Але аднойчы музыканты, з якімі я працавала ў балеце, пазнаёмілі мяне з цыганамі-спевакамі, братамі Фёдарам і Аляксандрам. З імі прыйшло яшчэ некалькі чалавек. Паспрабавалі — нешта атрымалася. А калі мы адчулі, што нешта атрымліваецца — загарэліся яшчэ больш. І вось са снежня мінулага года мы разам — спяваем, танцуем, вучымся...

**— Вы сказалі, што ў тэатр прыйшло спачатку некалькі чалавек. А як знайшліся астатнія?**

— Вы не ўяўляеце, якая гэта добра наладжаная сістэма — цыганская пошта. Іменна дзякуючы ёй астатнія нашы ўдзельнікі даведаліся аб існаванні тэатра і прыйшлі да нас. А танцавальная група — балет «Архідэя». У ім танцуюць не цыганы, але хлопцы і дзяўчаты, якія вельмі любяць танцы гэтага народа. Сёння ў нас у тэатры шаснаццаць чалавек.

**— Падчас рэпетыцыі я бачыла, як артысты зазіралі ў сшыткі з тэкстамі песень. Хто іх знаходзіў і запісваў?**

— Прыносілі песні ў асноўным самі цыганы. Але гэта быў, як правіла, вельмі «сыры», неапрацаваны матэрыял. Тое, што вы чулі сёння ў нашым выкананні, ужо апрацаваныя творы, з гатовай аранжыроўкай. Раблю яе я, а некаторыя папраўкі ўносяць самі артысты ў працэсе рэпетыцый...

**— Я чула, як пры абмеркаванні некаторых дэталяў артысты даволі часта ўжывалі музычныя тэрміны. Напэўна, у многіх ёсць спецыяльная музычная адукацыя?**

— Спецыяльную музычную адукацыю маю толькі я. Усе астатнія — самавукі, «слухачы». А слых, як вы маглі пачуць, ва ўсіх выдатны. А наконт «музычных» слоў у размове... Гэта ўсё набылося за тыя сем-восем месяцаў, што мы разам. У мяне ёсць нямала відэазапісаў выступленняў цыганскіх калектываў з іншых краін. Мы разам праглядаем гэтыя касеты як наглядны матэрыял у навучанні. Хочацца, каб з гэтага матэрыялу нашы артысты ўзялі і пераймалі самае лепшае. Тут дапамагае мая педагагічная адукацыя.

**— Зоя Аляксандраўна, я назірала, як вашы артысты праглядалі адзін з такіх відэазапісаў і бачыла, як яны з нейкай нават пагардай гаварылі аб некаторых спеваках: «Ну, гэта не цыган»... А як яны ставяцца да таго, што вы, не цыганка, кіруеце імі?**

— Я сапраўды не цыганка, я ўкраінка. Нават не так добра, як хацелася б, ведаю іхнюю мову. Але ж я дапамагаю захоўваць іменна цыганскую культуру, і раблю гэта прафесіянальна. Таму тое, што я «не іх крыві», успрымаецца нармальна, і артысты мяне паважаюць. (Сапраўды, калі Зоя Аляксандраўна выходзіла з пакоя, давялося пачуць ад цыганоў нямала цёплых слоў у яе адрас.— **А.Л.**)

□

Тэатр цыганскай песні «Гілля рамэн» існуе ўсяго восем месяцаў. Для тэатра — узрост немаўляці. Але артысты ўжо паспелі сказаць сваё адметнае слова. На фестывалі нацыянальных культур, які праходзіў нядаўна ў Гродне, цыганы занялі першае месца, уразіўшы і журы, і гледачоў яркімі касцюмамі, прыгожымі песнямі, тэмпераментнымі танцамі.

На сённяшні дзень гэта адзіны на Беларусі калектыў, які займаецца музычным мастацтвам цыганоў на такім узроўні. Практычна гэта тэатр-студыя: паралельна з працай ідзе навучанне і выхаванне. Яно павінна даць плён — артысты маладыя. Смуглявым прыгажуням-блізнятам Рыце і Віці па чатырнаццаць гадоў, іхні брат Міша, які таксама спявае разам з усімі, на год маладзейшы за сясцёр, сярэдні ўзрост астатніх — каля трыццаці... Карацей, яшчэ пэўны час напружанай працы — і «Песні цыганоў» будуць ведаць многія. Калі, вядома, артысты не пакінуць сваёй працы, калі калектыў захаваецца.

А захавацца яму няпроста. У тэатра няма нават памяшкання для рэпетыцый, яны праводзяцца ў кватэры Зоі Сасыгінай, у шматпавярховым доме. «Суседзі, бывае, у сцяну пастукаюць, але адкрыта не абураюцца»,— расказвае гаспадыня. Але як развучыць нумар з салістамі і балетам у стандартным гарадскім пакоі, застаўленым мэбляй? Нават уяўляецца з цяжкасцю...

Тэатр існуе сам па сабе. Міністэрства культуры дапамагае толькі вырашаць арганізацыйныя, дакументальныя пытанні. Што ж, ёсць хоць нейкі афіцыйны дах. Мінская філармонія ўзяць калектыў на баланс адмовілася. Маўляў, няма сродкаў. Хаця, здаецца, тэатр прынёс бы ёй толькі прыбытак: беларускі глядач, як, пэўна, і ўсякі славянскі, адчувае дзіўную слабасць да цыганскага мастацтва... Магілёўская філармонія і згодна была б узяць тэатр пад сваё крыло, але ўсе артысты жывуць у сталіцы. Не наездзіш кожны дзень.

Праўда, прапаноў выступаць у «Гілля рамэн» хапае. Рэстараны, начныя клубы... «Новых беларусаў», цяперашніх заўсёднікаў такіх устаноў, цягне да экзотыкі. А цыганы, як вядома, спрадвеку весялілі багатых, сытых і п'яных паноў... І яны згаджаюцца выступаць, праўда, без асаблівай ахвоты. Тут ужо грашовая рэальнасць дыктуе свае законы... Але цыганы мараць аб прафесіянальнай сцэне, хочуць наладзіць свае гастролі для звычайнага, простага гледача. Таму што адчуваюць сябе Артыстамі.

Нехта скептычна заўважыць: маўляў, свая, беларуская культура не ў лепшым стане, а тут нейкія цыгане... Але ж яны з гордасцю гавораць: «Мы — беларускія цыганы». А, як трэба шанаваць сваю культуру, нам у іх толькі б павучыцца...

А пакуль у назначаны час яны збіраюцца ў цеснай кватэры на вуліцы Герасіменкі і спяваюць прыгожыя — жыццярадасныя і журботныя — песні. Спяваюць захоплена, нават апантана. Што ж, цыганы — народ вандроўны, ім да нягод не прывыкаць.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ*

## Рыгор ПАЛІШЧУК: «Як пасрэднасці становяцца «зоркамі»?.. Дзякуючы рэкламе»

Яму рэдка даводзіцца іграць ролю палюбоўніка на сцэне «роднага» ДАВТа. Чамусьці лічыцца, што тонкія рамантычныя пачуцці павінны ўвасабляць выключна худасочныя артысты.

Тым не менш, жанчыны-калегі любяць Рыгора за яго дабрадушны твар, голас анёла і за яго манеры джэнтльмена. Але Рыгор аддае перавагу таму, каб быць вольным — бо птушкі, як кажуць, у няволі не спяваюць... Ён — халасты, і карыстаецца ўсімі прывілеямі свайго становішча: яго не «пілуюць» цешча і жонка, ва ўсякім разе, уласныя. Трэба заўважыць, што жыве Рыгор не адзін: з ім падзяляюць сціплыя метры трохпакаёвай кватэры бацька з маці, брат з жонкай і сынам. Не дзіўна, што Рыгор марыць аб наваселлі: «Я — індывідуаліст, і таму не хачу нікому прычыняць няёмкасць, а таксама — пераносіць яе з-за іншых...»

**— Рыгор, у твае маладыя гады трэба верыць, што асобная кватэра ў цябе яшчэ будзе! — абнадзейваю свайго суразмоўцу.**

— Згадзіцца з тым, што я малады, неяк няёмка — як-ніяк 37 гадоў, — уздыхнуў артыст. — Аднак мне заўсёды «даюць» менш — мабыць, маладжавы тып твару. Вось толькі камплекцыя надае мне пэўную саліднасць. Дарэчы, менавіта камплекцыі я абавязаны тым, што вялікія артысты Леанід Клунны і Надзея Мікуліч запрасілі мяне ў састаў унікальнай творчай групы — «Шоу таўстуноў». І я цудоўна сумяшчаю гэта новае «хобі» з асноўнай працай.

**— Між тым, цікавая «садружнасць» — два халасцякі і адна замужняя дама...**

— О, Надзея выклікае ў нас самыя высокія пачуцці, і ў думках мы носім яе на руках... Гэту таленавітую спявачку я помню яшчэ з дзяцінства — атрымліваў вялікае задавальненне, слухаючы яе выступленні ў



«Верасах». Але на любоўныя лісты, у адрозненне ад іншых яе паклоннікаў, не рашыўся...

**— Рыгор, кажуць, быў час, калі ў твой халасцяцкі пакой заходзіла сама Ала Пугачова! Мабыць, прымярала звязаныя табой з яркіх шарсцяных нітак кардыганы і світэры?..**

— Вязаннем я сапраўды захапляўся — як, дарэчы, эстрадай і... Пугачовай. Яе голас даносіўся з боку майго пакоя дзякуючы таму, што я... парадзіраваў спявачку. Дамачадцы заўважалі, што песні Міхаіла Барскага ў мяне таксама атрымліваюцца «адзін да аднаго». Аднак з таго часу, як я стаў класічным спеваком, больш за ўсё мне падабаецца быць самім сабой.

**— Цікава, і які ў цябе творчы стаж?**

— У Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета я адпрацаваў 9 сезонаў. Акрамя таго, мяне часта запрашаюць спяваць у Беларускую дзяржаўную філармонію, асабліва калі трэба выканаць духоўныя творы: «Рэквіем» Моцарта, «Рэквіем» Вэрдзі... Араторыю «Стварэнне свету» І. Гайдна я спяваў на нямецкай мове нават у вялікай зале філармоніі ў Санкт-Пецярбургу.

А дзякуючы таму, што народны артыст Беларусі Віктар Скарабагатаў не так даўно стварыў у Мінску «Беларускую капэлу», якая займаецца адраджэннем старадаўняй беларускай музыкі, мне давялося не толькі зрабіць шмат цікавых запісаў на радыё, але і пашанцавала з'ездзіць у Чэхію...

А наогул, удзельнікі «капэлы» адшукалі шмат цікавага музычнага матэрыялу ў архівах Варшавы, Санкт-Пецярбурга і, напэўна ж, у Мінску. Мне прыемна падкрэсліць тое, што Беларусь па праву можа ганарыцца сваім мінулым. Як я даведаўся з энцыклапедыі, у старадаўнія часы нават у невялікіх беларускіх вёсках існавалі — уявіце сабе — сапраўдныя сімфанічныя аркестры! І калі 210 гадоў таму ў маёнтку Радзівіла адбылася прэм'ера оперы «Агатка», у Расіі ў той час опернага мастацтва яшчэ не існавала.

**— Такім чынам, Радзівіл заслужыў павагу... Але хацелася б даведацца пра тое, чаму, калі па тэлебачанню транслююць выступленне беларускіх эстрадных выканаўцаў, ты, Рыгор, звычайна «пазбаўляеш іх права голасу», прасцей кажучы, адключаеш гук?**

— Наша беларуская эстрада вельмі спецыфічная... Узровень яе, на маю думку, такі: ад дрэннай (калі гэта зусім безгалоса) да добрай самадзейнасці. На шчасце, бываюць і выключэнні...

І хаця часта галасы нашых выканаўцаў больш цікавыя, чым, напрыклад, расійскіх, гэты плюс не заўсёды выратоўвае становішча, бо беларускія артысты замест таго, каб шукаць сваю індывідуальнасць і вучыцца спяваць суадносна з музыкай і тэкстам, «хвараюць» жаданнем спяваць... «у манеры». Калі я ўпершыню пачуў гэты тэрмін у музычных колах, то быў проста ашаломлены...

**— А ўсё ж такі, растлумач, калі ласка, што такое спяваць «у манеры»?**

— Я разумею так: гэта выкананне песень на беларускай ці расійскай мове, але... з англійскім вымаўленнем — на манер выканання вядомых негрыцянскіх спевакоў. Адсюль — шматлікія і недарэчныя ўздыхі-прыўздыхі; змена націску ў словах — што таксама рэжа слых, скрытыя англійскія «г», якіх у роднай мове няма і быць не можа; неверагодныя трэлі, фаршлагі і іншыя, выкарыстаныя не да месца, музычныя «ўпрыгажэнні».

Слухаеш песню «ў манеры» — і раптоўна пачынае душыць смех — да такой ступені гэта недарэчна і непрафесіянальна...

Калі ж спявае сапраўдны заходні выканаўца (бо, зразумела, непрафесіяналы ў іх таксама ёсць), тады адчуваеш, наколькі ён вышэй па ўзроўню за нашых «зорак» — гэта пацвярджаюць нават знаўцы беларускай эстрады.

**— Ты лічыш, што нават у Амерыцы вядомае імя артыста — не заўсёды прымета яркага таленту?**

— Калі пераходзіць на асобы, я ўпэўнены, што ў той жа Амерыцы ёсць спевакі «на дзесяць галоў вышэйшыя» за Майкла Джэксана і Мадонну. Але як становяцца «зоркамі» пасрэднасці? Дзякуючы рэкламе. Каго на дадзены момант больш рэкламуюць, той як бы і лічыцца лепшым — і слухачы паступова перастаюць звяртаць увагу на якасць голасу.

Гэты «зорны феномен» назіраецца не толькі ў эстрадзе, але, на жаль, стаў відавочным і ў класічных спевах... Таму, калі праслухаць пласцінкі оперных выканаўцаў, якія спявалі да 1965 года, і параўнаць артыстаў таго часу з сённяшнімі «зоркамі» оперы, — гэта неба і зямля...

**Гутарыла Алена КЛІМЕНКА.**

ТРЫБУНА ДЭПУТАТА

# КАЛІ ДОМ РАЗВАЛІЦЦА, РАМОНТ РАБІЦЬ ПОЗНА



ПАЎГАДАВАЯ дзейнасць Вярхоўнага Савета паказала, што, разумеючы цяперашні крызісны стан нашага грамадства, абсалютная большасць дэпутатаў гатовы сумесна з іншымі палітычнымі сіламі шукаць шляхі выхаду з узнікшага становішча, кіруючыся ў сваёй дзейнасці наступнымі прынцыпамі:

палітыка — гэта не барацьба за ўладу, а сродак дасягнення міру і згоды ў грамадстве;

сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка — гэта не самамэта, а шлях да паляпшэння ўмоў жыцця людзей;

сацыяльная палітыка — гэта не папулісцкія лозунгі і абяцанні, а галоўнае ў дзейнасці дзяржавы;

парадак і законнасць — гэта не ўшчамленне дэмакратыі, а гарантыя надзейнай абароны правоў і свабод грамадзян.

Не бяздумнае процістаянне розных палітычных сіл і груп, не вышукванне новых праціўнікаў, а сумесны пошук рашэння існуючых праблем — такім, а не іншым павінен быць сёння падыход.

Магу з упэўненасцю сказаць, што дэпутацкі корпус цяперашняга парламента гатовы да такога канструктыўнага дыялогу з усімі галінамі ўлады, палітычнымі партыямі, прафсаюзнымі і грамадскімі аб'яднаннямі.

Нельга дапусціць парушэння той хісткай грамадска-палітычнай раўнавагі, якая ўсталявалася ў выніку як вялікіх намаганняў дзяржаўных і палітычных дзеячаў, так і разумення многімі грамадзянамі іх ролі і месца ў палітычным працэсе. Зрушэнне балансу ў любы з бакоў выкліча незваротную ланцуговую рэакцыю, вынікам якой будзе немінучы сацыяльны выбух.

У сувязі з гэтым даводзіцца са шкадаваннем канстатаваць, што ў апошні час пэўнымі сіламі з акружэння Прэзідэнта ўсё больш настойліва падкідваюцца ідэі, якія могуць стаць дэтанатарам такога выбуху. Вельмі хочацца гэтым «спадарам-таварышам» запаліць бікфордаў шнур грамадскай незадаволенасці ў адзінай рэспубліцы былога Савецкага Саюза, якая засталася незаплямленай смерцю сваіх суграмадзян, каб ва ўзнікшым хаосе, як гаворыцца, схаваць «канцы ў ваду», а пасля таго, як канкурэнты будуць прыбраны, — запанаваць.

Няўжо не зразумела, што ўсе гэтыя прапановы аб зменах у Канстытуцыі пацягнуць за сабой зацяжны палітычны крызіс, які ў спалучэнні з глыбокім эканамічным крызісам, што ахапіў краіну, можа прывесці да самазнішчэння і страты дзяржаўнасці?! Таму на перакрыжаванні гістарычных дарог, на якім апынулася наша грамадства, выбар далейшага шляху трэба рабіць нам самім, кожнаму з нас. Спадзявацца, што гэта зробіць нехта іншы, — бяздумна.

Упэўнены, што народ зноў праявіць сваю жыццёвую мудрасць і цвярозы розум. Залог таму — пералом, які адбыўся ў грамадскай свядомасці людзей, што яны не шрубкі ў дзяржаўнай машыне, а галоўныя яе дэталі, што наглядна праявілася ў абранні правамоцнага парламента, а таксама ў масавых веснавых выступленнях.

Калі дом разваліцца, рабіць рамонт позна, а на аднаўленне патрабуюцца вялізныя намаганні і выдаткі. Не дапусціць разбурэння нашага агульнага дома — Дзяржавы Рэспублікі Беларусь — доўг і абавязак кожнага сумленнага грамадзяніна.

**Анатоль КРАСУЦКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, намеснік кіраўніка дэпутацкай фракцыі «Згода».**

ПАРАЛЕЛІ

# Як мала змянілася за сто гадоў у нашай псіхалогіі, або Урок палітычнай асветы француза Густава Лебона для выбаршчыкаў і парламентарыяў

**ПЕРАМЕНЫ, якія ахапілі сёння ўсе бакі жыцця нашага грамадства, найбольш ярка і дакладна, бадай, праявіліся ў палітычнай сферы. Апошняя напаўняецца новым зместам, які адрозніваецца разнастайнасцю палітычных працэсаў: ускладняюцца палітычныя сувязі паміж людзьмі, палітычнае жыццё ў нашай краіне набывае новую якасць. І гэта зразумела: беларуская дэмакратыя зусім маладая. Гэта, па сутнасці, дзіця ў параўнанні з еўрапейскімі дэмакратыямі. Пагадзіцеся, што мы, выбаршчыкі, як і нашы парламентарыі, былыя, цяперашнія і будучыя, таксама малавопытныя ў параўнанні з традыцыямі еўрапейскага парламентарызму. Здавалася б, на чужых памылках трэба вучыцца, для чаго абавязкова неабходна ведаць вядомыя цывілізаванаму свету метады і прыёмы, з дапамогай якіх палітыкі авалодваюць розумам сваіх суайчыннікаў (незалежна нават ад мэтаў, якіх яны дабіваюцца). Тым больш, што ёсць вядомая праца француза Густава Лебона, у якой ён апісвае норавы і звычаі вялікіх чалавечых супольнасцей, якія маюць назву — натоўп. Мяркую, што нашым чытачам будзе цікава пазнаёміцца з вытрымкамі з кнігі гэтага аўтара — «Псіхалогія народаў і мас», якая выйшла ў Санкт-Пецярбургу аж у 1896 годзе (пераклад з французскай, выданне Ф. Паўлянкова). Гаворка ў ёй вядзецца аб выбарным натоўпе, аб парламенцкіх сходах, якія ўяўляюць, на думку аўтара, такі ж разнародны, неананімны натоўп. Хутка, у канцы лістапада, павінны адбыцца давыбары ў Вярхоўны Савет, таму перакананы, усім нам, выбаршчыкам, ды і парламентарыям таксама, карысна будзе даведацца аб характарыстыках і думках, выказаных Густавам Лебонам роўна сто гадоў назад. Вельмі ж мала змянілася з таго часу ў нашай псіхалогіі! Вось ужо сапраўды, вучыцца ніколі не позна.**

## АБАЯЛЬНАСЦЬ — ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ

***Першай умовай, якой павінен адпавядаць кандыдат на выбарах, з'яўляецца абаяльнасць. Асабістая абаяльнасць можа быць заменена толькі абаяльнасцю багацця. Нават талент і геній не з'яўляюцца сур'ёзнымі ўмовамі поспеху. Самае галоўнае — гэта абаяльнасць, г. зн. магчымасць паўстаць перад выбаршчыкамі, не ўзбуджаючы ніякіх спрэчак.***

Але абаяльнасць не заўсёды, аднак, служыць залогам поспеху. Выбаршчык хоча таксама, каб лічыліся з яго славалюбствам і выконвалі яго жаданні. Каб на яго падзейнічаць, трэба адзывацца аб ім вельмі пахвальна і не саромеючыся даваць яму самыя фантастычныя абяцанні. Калі гэта рабочы, то трэба дагаджаць яму, лаючы яго гаспадара, што ж датычыць саперніка-кандыдата, то трэба старацца знішчыць яго, распаўсюджваючы пра яго думку, што ён самы апошні нягоднік, якія толькі бываюць, і што ўсім вядома, як многа ён учыніў злачынстваў. Няма чаго, вядома, шукаць у дадзеным выпадку чаго-небудзь падобнага на доказы. Калі праціўнік мала знаёмы з псіхалогіяй натоўпу, ён будзе апраўдвацца пры дапамозе аргументаў, замест таго, каб адказваць на гэтыя сцвярджэнні процілеглымі сцвярджэннямі і, вядома ж, такім чынам пазбавіцца ўсякіх шанцаў на поспех.

Напісаная праграма кандыдата не павінна быць празмерна катэгарычнай, таму што праціўнікі могуць яе выкарыстаць і прад'явіць яму яе ў далейшым; але затое слоўная праграма павінна быць самай насычанай. Ён можа абяцаць, без усякіх апасенняў, самыя важныя рэформы. Усе гэтыя перабольшаныя абяцанні робяць моцнае ўражанне менавіта ў той час, а ў далейшым ні да чога не абавязваюць. На самай справе, выбаршчык звычайна нікольки не стараецца даведацца потым, наколькі выбраны ім кандыдат выканаў абяцанні, у выніку якіх, натуральна, яго выбралі...

Што датычыць уплыву, які маглі мець звароты да розуму выбаршчыкаў, то дастаткова прачытаць пратакол любога выбарчага сходу, каб атрымаць для сябе наконт гэтага пэўную інфармацыю. На такім сходзе чуюцца розныя сцвярджэнні, лаянка, часам даходзіць справа да кухталёў, але нідзе не прыходзіцца чуць ніякіх разважанняў; калі на нейкі час і ўсталюецца цішыня, то гэта бывае толькі тады, калі хто-небудзь з прысутных, сварлівага характару, заявіць, што ён жадае прапанаваць кандыдатам адно з самых цяжкіх пытанняў, якія заўсёды прыводзяць у захапленне аўдыторыю. Аднак радасць апанентаў працягваецца звычайна нядоўга, таму што праціўнікі іх хутка заглушаюць сваім крыкам таго, хто першым пачне гаварыць.

## ВАЖАКІ НАТОЎПУ І ІХ СПОСАБЫ ПЕРАКАНАННЯ

***Звычайна важакі не належаць да ліку мысліцеляў — гэта людзі ў дзеянні. Яны не валодаюць празорлівасцю, таму што празорлівасць вядзе звычайна да сумненняў і бяздзеяння. Якой бы ні была недарэчнай ідэя, якую яны абараняюць, да якой яны імкнуцца, іх перакананні нельга пахіснуць ніякімі доказамі. Пагарда і праследаванне не робяць на іх уражання ці нават, наадварот, яшчэ мацней узбуджаюць. Асабісты інтарэс, сям'я — усё ім прыносіцца ў ахвяру. Інстынкт самазахавання ў іх знікае да такой ступені, што адзіная ўзнагарода, да якой яны імкнуцца, — гэта пакутніцтва. Напружанасць іх уласнай веры надае іх словам велізарную сілу ўнушэння. Натоўп заўсёды гатовы слухаць чалавека, адоранага моцнай воляй і які ўмее ўздзейнічаць на яго ўнушальна. Людзі ў натоўпе страчваюць сваю волю і інстынктыўна звяртаюцца да таго, хто яе захаваў...***

Важак вельмі рэдка ідзе наперадзе грамадскай думкі: звычайна ён ідзе за ёй і засвойвае ўсе яе памылкі.

Спосабы пераканання, якімі карыстаюцца важакі акрамя сваёй абаяльнасці, тыя ж самыя, што і ў любым іншым натоўпе. Каб умела карыстацца імі, важак павінен, хоць бы нават несвядомым чынам, разумець псіхалогію натоўпу і ведаць, як трэба гаварыць натоўпу. Асабліва яму павінна быць вядома абаяльнасць вядомых слоў, формул і вобразаў. Ён павінен валодаць даволі спецыяльным красамоўствам, пераважна якое заключаецца ў энергічных, хоць і зусім бяздоказных сцвярджэннях і яркіх вобразах, аздобленых даволі павярхоўнымі меркаваннямі.

Трэба выбіраць такія словы, якія могуць выклікаць вельмі жывыя вобразы. Наступная фраза, запазычаная намі з прамовы аднаго з важакоў нашых сходаў, служыць выдатным узорам такога красамоўства:

«У той дзень, калі адно і тое ж судна панясе да ліхаманкавых берагоў ссылкі прадажнага палітыка і забойцу- анархіста, яны могуць уступіць паміж сабой у размову і пададуцца адзін аднаму двума дадатковымі бакамі аднаго і таго ж сацыяльнага парадку рэчаў».

Вобраз, выкліканы пры дапамозе гэтай прамовы, даволі ясны, і, вядома ж, праціўнікі прамоўцы павінны былі адчуць, чым ён ім пагражае. Ім павінны былі адначасова ўяўляцца і ліхаманкавыя берагі, і судна, якое іх адвозіць, таму што менавіта яны могуць быць аднесены да той даволі дрэнна размежаванай катэгорыі палітыкаў, на якіх намякаў прамоўца. Зразумела, пры гэтым яны павінны былі зведваць такое трывожнае пачуццё страху, якое зведвалі члены канвента, слухаючы няясныя прамовы Рабесп'ера, у якіх адчувалася пагроза нажом гільяціны. Пад націскам гэтага пачуцця страху члены канвента і ўступалі заўсёды Рабесп'еру.

## РОЗУМ МОЖА ХУТЧЭЙ НАШКОДЗІЦЬ ВАЖАКУ, ЧЫМ ПРЫНЕСЦІ КАРЫСЦЬ

***Важак можа быць часам разумным і адукаваным чалавекам, але наогул гэтыя якасці хутчэй шкодзяць яму, чым прыносяць карысць. Розум робіць чалавека больш паблажлівым, высвятляючы перад ім складанасць рэчаў і даючы яму самому магчымасць растлумачваць і разумець, а таксама значна аслабляе напружанасць і сілу перакананняў, неабходных для таго, каб быць прапаведнікам і апосталам. Вялікія важакі ўсіх часоў, і асабліва важакі рэвалюцый, вызначаліся незвычайнай абмежаванасцю, прычым нават найбольш абмежаваныя з іх карысталіся пераважна найбольшым уплывам.***

Прамовы самага славутага з іх, Рабесп'ера, часта здзіўляюць сваёй недарэчнасцю. Чытаючы гэтыя прамовы, мы не можам растлумачыць сабе велізарнай ролі магутнага дыктатара.

«Агульныя месцы, мнагаслоўе дыдактычнага красамоўства і лацінская культура, пастаўленая да паслуг хутчэй дзіцяці, чым пашляка, якая мяжуе, як у абароне, так і нападзенні, з манерай школьнікаў, што крычаць: «Ану ідзі сюды!» Ніякай ідэі, ніякай дасціпнай думкі ці выхадкі, але пастаянны сум сярод буры.

Страшна нават падумаць іншы раз аб той сіле, якую дае чалавеку, маючаму абаяльнасць, якое-небудзь цвёрдае перакананне ў сувязі з надзвычайнай вузкасцю розуму. Але для таго, каб ігнараваць усякія перашкоды і ўмець хацець, трэба менавіта спалучаць у сабе гэтыя ўмовы. Натоўп інстынктыўна распазнае ў такіх энергічных, перакананых людзях сваіх уладароў, у якіх яна мае пастаянную патрэбу.

## ПАРЛАМЕНЦКІЯ СХОДЫ

***Парламенцкія сходы ў самых розных краінах — у Грэцыі, Італіі, Партугаліі, Іспаніі, Францыі, Амерыцы ўяўляюць даволі вялікія аналогіі у сваіх спрэчках і галасаваннях і прыносяць урадам аднолькавыя цяжкасці.***

Парламенцкі рэжым, зрэшты, уяўляе ідэал усіх сучасных цывілізаваных народаў, хоць у аснову яго пакладзена псіхалагічна няправільная ідэя, што мноства людзей, якія сабраліся разам, хутчэй здольны прыйсці да незалежнага і мудрага рашэння, чым невялікая іх колькасць.

У парламенцкіх сходах мы сустракаем рысы, уласцівыя для ўсякага натоўпу: аднабаковасць ідэй, раздражняльнасць, успрымальнасць да ўнушэння, перабольшанне пачуццяў, пераважны ўплыў важакоў.

Аднабаковасць думак складае важнейшую рысу гэтага натоўпу. Ва ўсіх партыях, і асабліва ў лацінскіх народаў, мы сустракаем нязменную схільнасць вырашаць самыя складаныя сацыяльныя праблемы пры дапамозе самых простых абстрактных прынцыпаў і агульных законаў, прымяняльных да ўсіх выпадкаў. Прынцыпы натуральным чынам мяняюцца адпаведна кожнай партыі, але ўжо ў выніку свайго знаходжання ў натоўпе індывіды заўсёды выяўляюць імкненне да перабольшання вартасцей гэтых прынцыпаў і стараюцца давесці іх да крайняй мяжы.

Парламенцкі натоўп вельмі лёгка паддаецца ўнушэнню, і, як ва ўсякім натоўпе, унушэнне зыходзіць ад важакоў, якія валодаюць абаяльнасцю.

Адносна ўсіх пытанняў, якія маюць мясцовую ці абласную цікавасць, у членаў парламенцкага сходу ёсць настолькі стойкія, нязменныя думкі, што ніякая аргументацыя не ў стане была б іх парушыць. Нават талент Дэмасфена не мог бы прымусіць дэпутата змяніць свой вотум (падача голасу, галасаванне «за» ці «супраць») адносна такіх пытанняў, як пратэкцыянізм і інш., што з'яўляюцца патрабаваннямі ўплывовых выбаршчыкаў. Верагодна, да гэтых думак, папярэдне ўстаноўленых у час выбараў, адносіцца наступнае разважанне аднаго англійскага парламенцкага дзеяча: «На працягу пяцідзесяці гадоў, што я засядаю ў Вестмінстэры, я чуў многа прамоў. Даволі многія з іх прымусілі мяне змяніць свае думкі, але ні адна не змяніла майго вотуму».

У пытаннях агульнага характару, якія датычаць, напрыклад, скасавання міністэрства, устанаўлення падаткаў і да т. п., не існуе ніякай стойкасці думак, і таму тут могуць дзейнічаць унушэнні важакоў гэтак жа, як і ў звычайным натоўпе. У кожнай партыі існуюць свае важакі, якія карыстаюцца часам зусім аднолькавым уплывам, таму дэпутат падвяргаецца часам процілеглым унушэнням і натуральным чынам выяўляе нерашучасць. Гэтым тлумачыцца, напрыклад, што іншы раз дэпутат за нейкія чвэрць гадзіны мяняе сваю думку, вацірує процілеглым чынам і дабаўляе які-небудзь артыкул да толькі што вацірованага ім закона, дзе зусім знішчаецца яго значэнне.

На шчасце, парламенцкія сходы становяцца натоўпам толькі ў вядомыя моманты. У велізарнай большасці выпадкаў людзі, якія ўваходзяць у іх састаў, захоўваюць сваю індывідуальнасць, і вось чаму сходы могуць выдаваць выдатныя тэхнічныя законы. Праўда, гэтыя законы раней былі выпрацаваны якім-небудзь спецыялістам у цішыні кабінета, таму па сутнасці яны з'яўляюцца толькі справай якога-небудзь аднаго індывіда, а не цэлага сходу. І такія законы, вядома, заўсёды бываюць самымі лепшымі і псуюцца толькі тады, калі цэлы шэраг няўдалых паправак ператварае іх у калектыўную справу. Дзейнасць натоўпу заўсёды і ўсюды бывае ніжэйшай за дзейнасць ізаляванага індывіда. Толькі спецыялісты выратоўваюць сходы ад прыняцця даволі бязладных і нямэтазгодных рашэнняў, і ў такіх выпадках спецыяліст заўсёды з'яўляецца часовым важаком. Сход на яго не дзейнічае, але затое ён сам дзейнічае на яго.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, звязаныя з іх дзейнасцю, парламенцкія сходы ўсё-такі з'яўляецца лепшым, што да гэтага часу маглі знайсці народы ў сэнсе самакіравання і, галоўнае, каб засцерагчы сябе, наколькі магчыма, ад іга асабістай тыраніі. Зразумела, парламент з'яўляюцца ідэалам урада, прынамсі для філосафаў, мысліцеляў, пісьменнікаў, артыстаў і вучоных, — словам, усіх, хто ўтварае вяршыню цывілізацыі. Па сутнасці ж парламенцкія сходы з'яўляюцца сур'ёзнай небяспекай толькі ў двух напрамках: у адносінах да вымушанай растраты фінансаў і ў адносінах да прагрэсіўнага абмежа-

# Вітаміны, вітаміны...

**Нарэшце доўгачаканае лета адарыла нас ўраджаямі. Хіба можа быць што-небудзь смачнейшае за садавіну і агародніну? Можна, вядома, паспрачацца аб тым, што ці карысна ўжываць мяса ў ежу, але летнія месяцы падораць вам пачуццё лёгкасці, аздаровяць ваш арганізм. Некаторыя гаспадыні, ставячы на стол стравы, прыгатаваныя з той ці іншай садавіны ці агародніны, нават не падазраюць, наколькі карыснымі для здароўя (маецца на ўвазе ўтрыманне ў іх вітамінаў) з'яўляюцца тыя ці іншыя расліны.**



Напрыклад, звычайны **перац**. Па колькасці вітаміну С перац займае першае месца сярод агародніны, бо ўтрымлівае яго больш, чым клубніцы, і амаль столькі ж, колькі чорныя парэчкі. Часам нават лімоны ўтрымліваюць у чатыры раз менш вітаміну С у параўнанні з перцам. Больш за ўсё вітаміну С утрымліваецца ля асновы плода, ля пладаножкі, таму трэба выдаляць толькі насенне і хвосцік.

Старайцеся як мага больш ужываць перцу ў сырым выглядзе, бо пры цеплавой апрацоўцы ён страчвае частку вітамінаў. Ёсць меркаванне, што ўжыванне перцу станоўча адбіваецца на працягласці жыцця чалавека...

А вось **памідоры**, з якімі так шмат клопатаў, пачынаючы яшчэ з зімы. Але колькі карысці! Памідоры ўтрымліваюць 93,9 працэнта вады, 1 працэнт бялкоў, 3,7 працэнта вугляводаў, большая частка якіх — растваральныя цукры (глюкоза, фруктоза і крыху цукрозы), нязначная колькасць крухмалу, а таксама 0,7 працэнта цэлюлозы.

У памідорах ёсць і арганічныя кіслоты, у асноўным лімонная і яблычная, і нязначная колькасць шчаўевай кіслаты. Самае каштоўнае ў памідорах — вітаміны. У іх утрымліваецца вітамін С, караціп, вітаміны Е, К, РР, і ў меншай колькасці — вітаміны $B_1$, $B_2$. У спелых свежых таматах вітаміну С ў дватры разы больш, чым у зялёных пладах. У пастэрызаваным таматным соку вітаміны захоўваюцца на працягу двух гадоў. У шклянцы таматнага соку ўтрымліваецца каля паловы неабходнай для чалавека дзённай дозы караціну і вітаміну С.

А вось «фрукт», які ўжо не з'яўляецца ў нас экзатычным, — **баклажан**. У баклажанах утрымліваецца амаль столькі ж пажыўных рэчываў, мінеральных соляў і вітамінаў, колькі ў перцы і памідорах. У іх ёсць вітамін С, вітаміны РР, $B_1$ і $B_2$. Баклажаны маюць такое рэчыва, як саланін, чым і тлумачыцца іх крыху гаркаваты смак. Таму перад ужываннем іх трэба пасаліць ці патрымаць у 3-працэнтным растворы салёнай вады — такім чынам выводзіцца значная частка саланіну.

Пра тое, наколькі карыснай для нас з'яўляецца **бульба**, гаварыць не варта. Вось толькі некалькі парад, як захаваць у ёй больш вітамінаў пры прыгатаванні. Старайцеся не варыць бульбу ў бляшаным ці медным посудзе, таму што пры гэтым страчваецца вялікая колькасць вітаміну С. Пры правільнай варцы бульбы можна захаваць каля 80 працэнтаў гэтага вітаміну. Пры варцы на пары страты вітаміну С у 2 разы меншыя, чым пры варцы ў вадзе. У варанай і печанай бульбе вітаміну С захоўваецца больш, чым у смажанай. Бульба, пакладзеная для варкі ў халодную ваду, страчвае да 50 працэнтаў вітаміну С, а апушчаная ў кіпень — толькі 10—20. Калі варыць бульбу «ў мундзірах», разбураецца толькі 20 працэнтаў вітаміну С, а калі ачышчаную — удвая больш.

-1288-

## СМАЧНА ЕСЦІ

**Прапануем некалькі рэцэптаў, паважаныя гаспадыні, у калекцыю да тых, якія вы маеце, што можна прыгатаваць з вышэйназваных раслін.**

### Перац фаршыраваны

Вымытую і ачышчаную моркву, пятрушку, цыбулю нарэзаць саломкай і падсмажыць на алеі, дабавіць дробна нарэзаныя памідоры без насення і лупін, соль, цукар, перац і давесці да гатоўнасці. Падрыхтаваны салодкі стручковы перац напоўніць гароднінным фаршам, пакласці ў сатэйнік і пратушыць у невялікай колькасці вадкасці. Падаць на талерцы ці сподачку, паліць сокам і ўпрыгожыць зяленівам. Падаваць як гарачую закуску.

### Памідоры з грыбамі

Гэта халодная закуска. Памідоры сярэдняй велічыні прамыць, зрэзаць верхнюю частку, крышачку адціснуць, у памідорах зрабіць паглыбленне, пасыпаць соллю і перцам. Памідоры напоўніць фаршам з грыбоў, упрыгожыць зяленівам. Прыгатаванне фаршу: грыбы салёныя, марынаваныя ці адварныя дробна нашынкаваць, змяшаць з дробна нарэзанай цыбуляй і запраўіць салатнай заліўкай ці смятанай.

### Баклажаны з памідорамі

Зняць лупіны з баклажанаў і нарэзаць іх кружочкамі таўшчынёй да 1 см, пасаліць, даць паляжаць 30 хвілін, каб паявіўся сок, абсушыць, запаніраваць у муцэ, падсмажыць на алеі. На другую патэльню пакласці разрэзаныя папалам памідоры, пасаліць, дадаць перац і расцёрты часнок, абсмажыць.

Пры падачы на баклажаны пакласці абсмажаныя памідоры і пасыпаць зялёнай пятрушкай.

### Баклажаны з мясам

У баклажанаў зрэзаць верх каля сцябла, абмыць, разрэзаць уздоўж папалам, пасаліць і даць паляжаць 30 хвілін, каб выдзеліліся вадкасць і горыч, затым баклажаны адціснуць і падсмажыць на патэльні на масле. Памідоры адварыць і працерці праз друшляк. Варанае мяса прапусціць праз мясарубку, абсмажыць на масле з дробна нарэзанымі і пасоленымі цыбуляй, перцам. На дно неглыбокай каструлі пакласці слой абсмажаных баклажанаў і пакрыць іх слоем дробна нарэзанай зялёнай пятрушкі, сельдэрэю, базіліку, кропу, змешаных з тоўчаным часнаком. Зверху зяленіва пакласці падрыхтаванае мяса, а на мяса пакласці яшчэ рад абсмажаных баклажанаў, потым усё пасыпаць нарэзаным зяленівам, заліць таматным соусам, пасаліць і паставіць тушыцца пад накрыўкай на 15 хвілін.

### Малінавы крэм са смятанай

Старанна расцерці 1 ячны жаўток з 2 ст. лыжкамі цукру, расцерці на пюрэ 300 г маліны і змяшаць з 3 ст. лыжкамі цукру, узбіць 100 г смятаны. Усё гэта перамяшаць і раскласці ў вазачкі. Зверху ўпрыгожыць венчыкам са смятаны, пакласці на сярэдзіну па адной вялікай ягадзіне і да падачы на стол трымаць у халадзільніку.



### Суніцы з крэмам

Спарыць 1/2 літра малака з цукрам па густу. Развесці 2 ст. лыжкі звычайнай ці бульбяной мукі ў невялікай колькасці халоднай вады і атрыманую кашку дабавіць пры няспынным памешванні ў паранае малако.

Варыць памешваючы, пакуль каша не загусцее, пасля чаго зняць яе з агню, дабавіць парашок ваніліну; 3 ячныя жаўткі добра перамяшаць і працерці праз друшляк. Пры падачы на стол пакласці на сподачак і заліць іх прыгатаваным крэмам.

**Прыемнага вам апетыту.**

-1289-

## Усходні гараскоп на наступны тыдзень

**ДЭЛІ. (Кар. ІТАР—ТАСС Леанід Котаў). КАЗЯРОГ** няхай рыхтуецца да важных сустрэч, выбрання ў кіруючыя органы і ўзнагарод. У бізнесменаў наперадзе паездка за мяжу, за час якой справы ў іх дома нармалізуюцца. Тыдзень спрыяльны для рамантычных прыгод і ўмацавання любоўных вузаў.

**ВАДАЛЕЙ** будзе пажынаць плады сваёй няўступчывасці ў дзелавых аперацыях. Яны на нейкі перыяд сыдуць на нішто і перастануць даваць плён. Не адчайвайцеся. Усё вернецца на кругі свае. Лепшымі будуць адносіны ў сям'і, дзе праблемы вырашацца з дапамогай сваякоў.

**РЫБЫ** акунуцца ў атмасферу дружбы і супрацоўніцтва ў сябе на рабоце. Але некаторых не задаволіць нават гэта і ім тады прыйдзецца змяніць месца атрымання зарплаты. Магчымы прапановы адкрыць свой спачатку невялікі бізнес. Чакаюцца сустрэчы бацькоў з дзецьмі, якія вучацца за мяжой.

**АВЕНАМ** трэба завяршыць даўно пачатую справу і заняцца хатнімі праблемамі. Лётчыкам давядзецца пазнаць тугу па небу, бо абставіны прымусяць іх застацца на зямлі. Усім служачым зоркі раяць больш уважліва аднесціся да сваіх абавязкаў на рабоце, дзе магчымы непрыемнасці.

**ЦЯЛЬЦЫ**, якія пазналі расчараванне ў рабоце, могуць падаваць у адстаўку. Але пошук новай сферы прыкладання сіл зойме некалькі месяцаў. Так што, перш сем разоў адмерце. Занятых творчай працай чакаюць узнагароды, асабістае жыццё пачне складвацца.

**БЛІЗНЯТЫ** атрымаюць навіны, якіх доўга чакалі. Важная размова па тэлефоне прывядзе да з'яўлення ідэі аб тым, дзе ўзяць грошы. Сумесны бізнес акажацца прадуктыўным. Але на хатніх зусім не застанецца часу, а на справы сардэчныя — тым больш. Зоркі не спрыяюць уступленню ў шлюб, таму крыху пацярпіце.

**РАКУ** парада перадаць ненадоўга свае фінансавыя справы даверанай асобе. Гэта дапаможа пазбегнуць будучых грашовых катаклізмаў. Нечаканая сустрэча паслужыць будучым дзелавым поспехам. Вялікая ўвага да клопатаў блізкіх дапаможа лепшаму ўзаемаразуменню з імі.

**ІЛЬВАМ** усміхнецца ўдача на дзяржаўнай або ўрадавай службе. Тым, хто рыхтуецца да адстаўкі, не трэба спяшацца з афармленнем пенсіі — ёсць рашэнне даць вам магчымасць працаваць далей. Гарантаваны рамантычныя прыгоды, захапленні і нешта большае, але, на жаль, толькі на кароткі гістарычны прамежак.

**ДЗЕВА** павінна дзейнічаць рашуча і тады дасягне поспеху ў бізнесе. Афармленне здзелак пройдзе без папяровай валакіты. Не выключаецца павышэнне па службе і перавод на адказную работу. Спадзявайцеся на дапамогу тых, чые імёны на літары С і К. Яны прынясуць вам шчасце.

**ШАЛІ** набудуць вялікі поспех у бізнесе за кошт вокамгненных дзеянняў і смелых фінансавых ініцыятыў. Павышэнне па службе чакае ваенных і ахоўнікаў парадку. Ім жа атрымліваць узнагароды і пашану. Тыя, хто думае аб паўторным шлюбе, могуць пачаць рэалізацыю мары.

**СКАРПІЁН** завершыць выкананне вялікай задачы і можа рыхтавацца да атрымання ўзнагародных. Зоркі спрыяюць пачатку новых праектаў, набыццю новых знаёмстваў, сувязей — словам, усяго новага. Дома ў вас усё будзе ў парадку і радасна ад поспеху кагосьці з родных.

**СТРАЛЕЦ** павінен будзе перамагчы свайго галоўнага ворага — нерашучасць. У выпадку перамогі смела бярыцеся за важныя праекты, выкананне якіх патрабуе, аднак, увагі і аддачы сіл. Не спадзявайцеся на іншых і рабіце ўсё самі — у вас атрымаецца.

## НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ЖАНЧЫН

# Прыгажосць з градкі

❑ Пучок **пятрушкі** дробна нарэзаць, заліць вадой і давесці да кіпення. Кашку выкладыць на марлю, а потым — на твар на паўгадзіны. Затым твар працерці (але не мыць!). Працэдуру паўтараць тры разы на тыдзень, а адварам пятрушкі скуру праціраць штодзённа. Вялая скура асвяжаецца і танізуецца, а тлустая — абястлушчваецца.

❑ **Кроп** выкарыстоўваецца пры сухой скуры, увільгатняе і жывіць яе. Прыгатаваць адвар з 400 г вады і 2 ст. лыжак накрышанага кропу. Варыць на працягу 5 хвілін. Працэджанай вадкасцю змачыць марлю, складзеную ў 3-4 слаі, і пакласці яе на твар. Зверху пакласці поліэтылен, а на яго махровы ручнік. Маска дзейнічае 20—30 хвілін, пасля чаго твар трэба спаласнуць. З адвару кропу робяць таксама кампрэсы пры алергічным дэрматыце, пры сонечных апёках, калі свярбіць скура.

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

- Калі рабочая паверхня праса стала шурпатай, пратрыце яе ватай, намочанай у нашатырным спірце, затым уключыце прас і прапрасуйце ім мокры кавалачак тканіны. Прас зноў стане чыстым.
- Пры мыцці каляровых рэчаў добра пры апошнім паласканні дабаўляць воцат: 3—5 сталовых лыжак на вядро вады. Ён ажывіць колер, надасць вырабу яркасць.
- Не трэба наліваць у ванну вельмі халодную ці вельмі гарачую ваду. З-за рэзкіх перападаў тэмпературы на паверхні яе эмалевага пакрыцця паяўляюцца дробныя трэшчыны і жоўты налёт, які не змываецца.
- Люстэркі баяцца сырасці і сонца. Яркія сонечныя промні не павінны прама трапляць на люстэрка. Яго лепш за ўсё выціраць сухой мокрай анучкай, а два разы ў месяц палатнянай анучкай, намочанай воцатам. Люстэрка будзе блішчэць, калі ў вадзе, якой яго мыюць, развесці крыху сінькі.
- Алюмініевай пасудзіне, якая пачарнела знутры, можна надаць першапачатковы выгляд, пракіпяціўшы ў ёй ваду, падкісленую воцатам.
- Звычайна фасолю, перад тым як варыць, доўга вымочваюць. Можна гэтага не рабіць. Паставіўшы каструлю на агонь, праз кожныя 5—7 хвілін падлівайце ў яе па сталовай лыжцы халоднай вады.

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКУ

❑ Старанна шукайце, падтрымлівайце і стымулюйце асоб, ад прыроды здольных да творчасці.

❑ Старайцеся пазбягаць «аўралаў» і загружаць супрацоўнікаў звыштэрміновымі пытаннямі, якія непазбежна атрымаюць скараспелыя адказы.

❑ Прывучыце сябе і іншых не адхіляць ідэю адразу, а спачатку пашукаць у ёй рацыянальнае зерне. Пры першым поглядзе, як правіла, чалавек заўважае 10 працэнтаў, адначасова ўпускаючы 90 працэнтаў яе вартасцей.

❑ Кантралюйце сітуацыю такім чынам, каб у калектыве панавала атмасфера ўзаемнай павагі і як мага радзей узнікалі саперніцтва, падазронасць, недавер.

❑ Заахвочвайце разумную рызыку. Без яе немагчымы працэс стварэння і ўкаранення новаўвядзенняў.

❑ Праяўляйце большую цярпімасць да памылак і прамашак іншых.



-1290-

## БУДУЕМ САМІ

# Руская лазня



Перш за ўсё адшукваюць адпаведнае месца на ўчастку. Лепш за ўсё выбраць пляцоўку, якая суседнічае з ракой, возерам ці якой-небудзь іншай водакрыніцай.

Пляцоўку выраўноўваюць, трамбуюць і акопваюць сцёкавымі канаўкамі. Калкамі размячаюць межы будучай пабудовы. У плане яна павінна ўяўляць квадрат з бакамі даўжынёй 4...5 см. Уваходзяць у лазню праз невялікую верандачку. З прылазніка дзверы вядуць у мыечную, дзе ўстанаўліваюць ёмістасці (кадушкі, бачкі ці жалезныя бочкі) з гарачай і халоднай вадой. Памяшканне мыечнай можна выкарыстоўваць як пральню.

Асноўнае памяшканне лазні — парыльня. Дзвярную каробку ў ёй робяць з высокім парогам і нізкім вершнікам, каб зберагчы цяпло і пару пры адкрыванні дзвярэй. Уздоўж адной са сцен абсталёўваюць двухступеньчаты палок.

У цэнтры ўсяго памяшкання знаходзіцца печ-каменка, а дзверцы грубкі размешчаны ў прылазніку. Для будаўніцтва каменкі выкарыстоўваюць бутавы камень ці абпаленую цэглу. Корпус печы выкладваюць з цэглы на гліняным растворы.

Печ устанаўліваюць на самастойным фундаменце, які заглыбляюць у зямлю на 50...60 см. Паліўнік робяць з вогнеўстойлівай цэглы і перакрываюць зводам, што мае адтуліны, праз якія гарачыя газы трапляюць у камеру. Яе загружаюць камянямі і чыгуннымі балванкамі. Тут жа ўстанаўліваюць няхітрае, але вельмі зручнае прыстасаванне — дугападобную трубу, вострыя канцы якой устаўлены ў кадушку з вадой.

Выгіб трубы награецца, перадае сваё цяпло вадзе, што знаходзіцца ў ёмістасці. Вада ў кадушцы літаральна кіпіць. Ваду льюць на распаленыя камяні. Утвараецца пара. На каменку замест вады можна падаваць квас, настой з лісця эўкаліпту, чорных парэчак, малін ці скрыпеню.

## ХАТНЯМУ МАЙСТРУ

❑ Намачыце старую капронавую панчоху ў халоднай вадзе, а потым пратрыце ёю шкло, люстэрка, хрусталь — убачыце, як яны заблішчаць.

❑ Венік, засунуты ў капронавую панчоху, як у чахол (яго замацоўваюць на ручцы), мяце не горш, а служыць даўжэй.

❑ Абцягнуты тонкай тканінай наканечнік пыласоса дасць магчымасць без асаблівай цяжкасці выцягнуць пыл са скрынкі з дробязямі: шпількі, гузікі і ніткі не ўцягнуцца з патокам паветра.

❑ Прыберажыце непатрэбныя панчохі на выпадак рамонту ці пераезду на новую кватэру. Яны дапамогуць павесіць на сцяну палічку ці, напрыклад, карціну, не выкарыстоўваючы драўляных коркаў. Адтуліну, зробленую ў цэгле ці бетоне, набіваюць абрэзкамі тканіны, расплаўляюць нагрэтым на агні цвіком і, перш чым капрон астыне, увінчваюць у яго шрубу. Такі корак трымае вінт вельмі моцна, і ў той жа час яго заўсёды можна ўвінціць і вывінціць зноў — нарэзка захоўваецца.

-1291-

Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем дарагую любімую жонку і маці **Людмілу Паўлаўну БУЛГАК** з днём нараджэння

*Желаем счастья и добра,*
*Здоровья крепкого всегда,*
*Прожить ещё до сотни лет,*
*Не зная горести и бед.*

***Муж і дачка Алена, г. Навагрудак.***

З днём нараджэння віншую дарагую матулю **Валянціну Аляксандраўну НОВІКАВУ**. Жадаю шчасця, моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

***Таня, в. Дзербічы.***

Віншуем з днём нараджэння дарагога ўнука **Сашу САЙКО з в. Карнышы Навагрудскага раёна**. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе.

***Бабуля, дзядуля.***

Віншую з днём нараджэння мужа **Аляксандра Антонавіча ПРУЗАНА**. Жадаю ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

***Святлана, в. Хатляны.***

